Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 43 (4792) 31 кастрычніка 2014 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 70-годдзем народнага артыста Расіі Мікалая Карачанцава. «Ваша жыццё — узор нястомнай творчай працы і адданасці акцёрскаму прызванню», — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў генеральнага дырэктара Усерасійскай дзяржаўнай тэлевізійнай і радыёвяшчальнай кампаніі Алега Дабрадзеева з 55-годдзем. Аляксандр Лукашэнка выказаў упэўненасць, што і ў далейшым УДТРК будзе спрыяць умацаванню беларуска-расійскага стратэгічнага партнёрства.

✔ Стварэнне беларуска-кітайскага фонду, які будзе займацца перакладам літаратурных твораў нашых краін, абмяркоўвалася падчас сустрэчы ў Міністэрстве інфармацыі Беларусі, прымеркаванай да завяршэння двухгадовага праекта «Кітайская Народная Рэспубліка — ганаровы госць XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу». Падпісаны мемарандум аб узаемаразуменні па пытаннях супрацоўніцтва паміж Галоўным дзяржаўным упраўленнем па справах прэсы, выдавецтваў, радыёвяшчання, кінематаграфіі і тэлебачання КНР і Міністэрствам інфармацыі Беларусі. Падчас візіту дэлегацыі ў Выдавецкі дом «Звязда» былі абмеркаваны перспектывы выдання кітайскіх аўтараў у перакладзе на беларускую мову, а беларускіх — на кітайскую.

✔ Роля сродкаў масавай інфармацыі ў процідзеянні сучасным інфармацыйным і геапалітычным пагрозам Беларусі і Расіі абмеркавана на пачатку тыдня ў Маскве на пасяджэнні камісіі Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі па інфармацыйнай палітыцы. Разглядаліся пытанні выдавецкай дзейнасці, фінансуемай з бюджэту Саюзнай дзяржавы ў 2013 — 2014 гадах, і выкананне бюджэту Саюзнай дзяржавы па раздзеле «Сродкі масавай інфармацыі» ў 2014 годзе.

✔ Памер прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва цяпер складае 5 млн. расійскіх рублёў. Сума вызначана зменамі ў Палажэнне аб прэміі, зацверджанымі Саветам міністраў Саюзнай дзяржавы. Новай рэдакцыяй Палажэння ўстаноўлена, што грашовае ўзнагароджанне за калектыўны твор дзеліцца пароўну паміж лаўрэатамі, а дыплом, ганаровы знак і пасведчанне да яго ўручаюцца кожнаму.

✔ Міжнародны Калядны конкурс вакалістаў упершыню пройдзе ў Мінску з 10 па 18 снежня. Пляцоўкай для дэманстрацыі талентаў стане адзін з грандыёзных культурных праектаў Вялікага тэатра — Мінскі міжнародны Калядны оперны форум. Гэта першы ў гісторыі Вялікага тэатра Беларусі вакальны конкурс, арганізатарам якога з'яўляецца тэатр.

✔ Кінатыдзень «Тураўская восень», прысвечаны памяці слыннага земляка, рэжысёра і сцэнарыста Віктара Турава, праходзіць у Магілёве. У кінатэатры «Радзіма» гледачу прапануюць рэтраспектыўны паказ фільмаў юбіляра гэтага года.



Фота БелТА



# Усё для чытача: аб'ектыўны погляд

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі нашай краіны. Сваімі ўражаннямі з чытачамі «ЛіМа» падзяліўся старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец.**

— На пачатку свайго выступлення я коратка праінфармаваў Прэзідэнта пра тое, што ўдалося выканаць цягам трох апошніх гадоў, з моманту папярэдняй сустрэчы. А гэта цэлы шэраг пытанняў, рашэнне якіх сведчыць, што такія падзеі для пісьменнікаў вельмі карысныя перш за ўсё як стымул для далейшай творчай дзейнасці. У прыватнасці, наша прысутнасць у інтэрнэце ўзрасла ў 30 разоў. Палепшылася якасць выпуску друкаванага органа Саюзнай дзяржавы — часопіса «Белая Вежа». Па выніках калектыўных творчых вандровак па краіне 55 членаў СПБ падрыхтавалі да друку новыя творы.

Сустрэчы з Прэзідэнтам дазваляюць аб'ектыўна паглядзець на літаратурную сітуацыю ў краіне.

Часам нас спрабуюць папракнуць некаторыя журналісты: маўляў, вас не чытаюць і не ведаюць. Але мы здолелі даказаць зваротнае. З дапамогай мясцовых органаў улады распрацавалі анкету, куды ўключылі 48 найбольш вядомых айчынных пісьменнікаў. Анкету разаслалі ва ўсе бібліятэкі краіны. Іх супрацоўнікі пазначалі, ці ёсць у фондах кнігі згаданых аўтараў, калі ёсць, то колькі асобнікаў і колькі разоў за апошнія два гады выданні запытваліся чытачамі. Высветлілася, што агульная колькасць такіх запытаў — каля двух з паловай мільёнаў!

Кіраўнік дзяржавы справядліва прад'яўляе да айчынных творцаў высокія патрабаванні, клапоцячыся пра тое, каб сучасны літаратурны працэс дынамічна рухаўся наперад. Зразумела, што немагчыма стварыць другі «Ціхі Дон» ці «Вайну і мір». Ды і ўсю праўду пра Вялікую Айчынную вайну ў сваіх творах ужо раскрылі класікі: Васіль Быкаў, Іван Шамякін… Але да ваеннай тэмы пастаянна вяртаюцца і сучасныя аўтары.

Аднак практыка паказвае: чым ніжэйшы агульны ўзровень пісьменніка, тым большай увагі да сябе ён патрабуе. Часцяком такія аўтары імкнуцца публічна павучаць іншых, як трэба пісаць. На мой погляд, праблема ў тым, што сучаснай літаратуры вельмі не хапае канструктыўнай крытыкі.

**— Што гаварылася на сустрэчы пра ролю мастацкай літаратуры ў жыцці сучаснага грамадства?**

— Апошнім часам добры ўзровень развіцця атрымала беларуская краязнаўчая і гістарычная літаратура. Напрыклад, пабачылі свет зборнік гістарычнай прозы Алега Ждана «Князь. Гасударыня. Епіскап», раман «Памылка Манамаха» Мікалая Ільінскага, цыкл «Расія» Уладзіміра Гніламёдава, а таксама кнігі «Героі Першай сусветнай» Вячаслава Бандарэнкі ды «Крыж Айчыны» Уладзіміра Грозава, Анатоля Шаркова і Юрыя Бяствіцкага, прысвечаныя падзеям вайны 1914 — 1918 гг. Прыемна, што выклікала ўвагу і мая кніга «Аперацыя "Кроў"» пра жахі Вялікай Айчыннай. Не страчвае актуальнасці «Обаль» Алеся Савіцкага.

Шэраг новых выданняў прысвечаны і нашым сучаснікам, як, прыкладам, кніга Уладзіміра Ліпскага «Мужык» пра кіраўніка СПК «Астрамечава» Брэсцкага раёна, старшыню Беларускага аграпрамысловага саюза Аляксея Скакуна.

Чытайце на стар. 2 ▶

# Усё для чытача: аб'ектыўны погляд

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

У галіне дзіцячай літаратуры плённа працуе празаік і драматург Георгій Марчук, аўтар зборніка з 50 казак «Добрае сэрца». З выхадам новых значных кніг паэзіі можна павіншаваць Міхася Пазнякова, Тамару Краснову-Гусачэнка, Людмілу Кебіч і цэлы шэраг іншых прадстаўнікоў СПБ, сярод якіх усё ярчэй заяўляе пра сябе маладое пакаленне.

Нямала тут і цяжкасцей. Сёння далёка не кожны можа дазволіць сабе набыць кнігу коштам у 150-200 тысяч рублёў. А між тым мастацкая вартасць вызначаецца не яркай вокладкай, а зместам. Надзвычай востра стаіць праблема напаўнення бібліятэчных фондаў, дзеля рашэння якой асобныя недзяржаўныя выдавецтвы апошнім часам зніжаюць цэны на кнігі беларускіх аўтараў. Хацелася б, каб айчынныя пісьменнікі як мага актыўней удзельнічалі ў прапагандзе кніг і працэсе кнігагандлю, сустракаліся з чытачамі ды адказвалі на іх пытанні, у тым ліку і ў кнігарнях. Штогод адбываецца больш як 15 тысяч такіх творчых сустрэч, куды прыходзяць не толькі дарослыя, але і школьнікі, студэнты, якія задаюць літаратарам самыя розныя пытанні, іншым разам даволі складаныя. Дарэчы, у краіне працуе мноства літаратурных гурткоў, якімі кіруюць члены Саюза пісьменнікаў Беларусі. Нямала ў нашым аб'яднанні і таленавітых маладых людзей, здольных развażаць па-сапраўднаму глыбока. Штогод вылучаем па 11 такіх творцаў на атрыманне стыпендый Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**— Ці разглядалася пытанне пра дапаўненне школьнай праграмы па беларускай літаратуры творамі сучасных аўтараў?**

— Так. Несумненна, школьныя падручнікі павінны змяшчаць творы айчынных класікаў: Янкі Купалы, Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Івана Чыгрынава, Васіля Быкава, Івана Шамякіна, Андрэя Макаёнка… Але калі моладзі не прадстаўляць сучасных аўтараў, можна збіць яе са шляху правільнага разумення сённяшняга літаратурнага працэсу ўвогуле. Таму важна выкладаць школьнікам патрэбную літаратуру, не толькі карысную для іх, але і цікавую.

**— Якія кнігі выбірае чытач? Як развіваць літаратурныя традыцыі, каб азнаямленне чытача з новымі творамі сучасных аўтараў было і цікавым, і карысным?**

— Любая кніга, напісаная цікава, будзе карыснай. І тут вельмі важная роля пісьменніцкай суполкі: выходзіць з інтарэсаў не канкрэтнага творцы, а Радзімы і народа, быць справядлівымі.

**— А наконт «моўнага пытання»?**

— Безумоўна, трэба адстойваць умацаванне сучаснай пазіцыі беларускай мовы. Падчас сустрэчы Кіраўнік дзяржавы звярнуў увагу на тое, што вывучэнню замежнай мовы ў школьнай праграме адведзена большая колькасць гадзін, чым беларускай. Таму лічу, трэба адкрываць профільныя гурткі для школьнікаў (ды і не толькі для школьнікаў), якія цікавяцца роднай мовай і разумеюць яе важнасць.

**— Ці абмяркоўваўся ў межах сустрэчы сённяшні стан перакладной літаратуры?**

— Творы членаў СПБ перакладзены на 17 моў свету. Аднак над перастварэннем тэксту трэба працаваць прафесійна.

**— Што да супрацоўніцтва з іншымі відамі мастацтва...**

— Без літаратуры не было б ні тэлебачання, ні тэатра, ні кінематографа. Для прадстаўнікоў гэтых сфер мусіць быць карысным супрацоўніцтва з пісьменнікамі. Ёсць у нас і добрыя песенныя творы (адпаведная намінацыя ўведзена ў структуру конкурсу «Лепшы твор года»), але іх палітру трэба ўзбагачаць. Вялікі крок наперад у гэтым жанры зрабіў паэт Іван Юркін, які ў суаўтарстве з кампазітарам Алегам Елісеенкавым стварыў шэраг песень для эстраднага выканаўцы Анатоля Ярмоленкі. А сёлета «Залатога Купідона» атрымаў яшчэ адзін выбітны паэт-песеннік — Іван Цітавец.

**— Якія ж вынікі сустрэчы?**

— Вырашана правесці літаратурны конкурс сярод аўтараў-пачаткоўцаў. Саюз пісьменнікаў Беларусі ўнёс прапанову аб стварэнні незалежнага інстытута крытыкі, без якога немагчымы прагрэс літаратуры. Былі і іншыя прапановы, датычныя бібліятэк, драматургіі і г. д. Для нас вельмі важна, што кіраўнікі вядучых тэлеканалаў Генадзь Давыдзька, Рыгор Кісялёў, Юрый Казіятка выказалі жаданне ў бліжэйшы час сустрэцца з кіраўніцтвам СПБ для абмеркавання і вырашэння шэрагу пытанняў.

Спадзяюся, што гэтая сустрэча паслужыць моцным стымулам для далейшага развіцця і ўмацавання айчыннай культуры.

**Гутарыла Яна ЯВІЧ**

# Віртуозы восені

Міжнародны фестываль мастацтваў «Беларуская музычная восень» распачаўся ў Мінску. Удзел у свяце бяруць музыканты з дзевяці краін свету. У праграме форуму — не толькі разнастайныя жанры класічнай музыкі, але і фальклор, поп-музыка, джаз, харэаграфічнае мастацтва.

Фестываль адкрыўся 28 кастрычніка канцэртам «Віртуозы цымбалаў» лаўрэатаў міжнародных конкурсаў Аляксандры Дзенісеня ды Міхаіла Лявончыка і Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча.

Аматары музыкі змогуць наведаць сімфанічныя і камерныя канцэрты, выступленні струннага квартэта імя М. Глінкі з Масквы і выдатных джазавых выканаўцаў — Уладзіміра Чэкаіна і Пятраса Генюшаса, айчынных маладых талентаў — стыпендыятаў Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Цікавым акцэнтам свята стане вечар памяці кампазітара Яўгена Глебава, прымеркаваны да 85-годдзя з дня нараджэння творцы. На сцэне Белдзяржфілармоніі разам з Сімфанічным аркестрам Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі выступяць навучэнцы і выкладчыкі дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 10 імя Я. Глебава.

Заключным акордам «Беларускай музычнай восені» стане выступленне 27 лістапада Нацыянальнага хору імя Генадзя Цітовіча пад кіраўніцтвам народнага артыста Міхаіла Дрынеўскага. У канцэрце да 90-годдзя прафесара Міхаіла Солапава «Прынашэнне настаўніку» возьмуць удзел яго вучань — спявак і кампазітар Ігар Карнялюк — і народны артыст Беларусі Эдуард Ханок.

Гасцей свята мастацтваў чакаюць сустрэчы з Дзяржаўным камерным аркестрам Рэспублікі Беларусь, Беларускім дзяржаўным ансамблем народнай музыкі «Свята», Дзяржаўным ансамблем танца Беларусі, ансамблем «Камерныя салісты Мінска» ды іншымі.

**Ганна ШЫМУК**

# Беларусь — Сербія

У Сербіі з 26 кастрычніка па 2 лістапада працуе Міжнародная кніжная выстаўка. Гэтай восенню — 59-я па ліку. Па традыцыі ўдзельнічае ў прадстаўнічым форуме выдаўцоў і беларуская дэлегацыя. Сёлета яна сфарміравана з прадстаўнікоў Выдавецкага дома «Звязда». Пра тое, якія навінкі павезлі ў Бялград, расказвае галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Аляксей Чарота:

— У першую чаргу, гасцей, наведвальнікаў выстаўкі мы пазнаёмім з кнігамі Выдавецкага дома «Звязда», выпушчанымі сёлета. У іх ліку і альбом-манаграфія «Партызанская зброя», падрыхтаваны сумесна з Беларускім дзяржаўным музеем Вялікай Айчыннай вайны. Вядома, што ў Беларусі з гітлераўцамі ваявалі і сербы, прадстаўнікі іншых народаў колішняй Югаславіі. Пакажам у Бялградзе і альбом «Апошні прытулак салдата» — пра пахаванні Першай сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі. Безумоўна, распавядзём і пра публікацыі сербскіх аўтараў у нашых часопісах — прозы і паэзіі Нэвены Вітошавіч, Ліляны Хаб'янавіч-Джуравіч ды іншых знакамітых сербскіх літаратараў.

Дарэчы, у Бялградзе адбудзецца і прэзентацыя кнігі «Сербія ў Вялікай Вайне 1914 — 1918 гг.», якую пераклалі на рускую мову Іван, Аляксей і Уладзімір Чарота. Ініцыятар гэтага выдавецкага праекта — былы міністр замежных спраў Югаславіі Жывадзін Ёванавіч.

Сярод арганізатараў беларускага стэнда на кніжнай выстаўцы ў Бялградзе — і пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Сербія.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# З пашанаю да слова

**Так можна акрэсліць змест чарговага, шостага, нумара літаратурна-мастацкага, духоўна-асветніцкага і навуковага часопіса Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы «Белая Вежа». Як сцвярджаюць яго аўтары, шчырае, мудрае слова ўплывае на развіццё сацыяльнасці, з'яўляецца рухавіком чалавечай сілы, дапамагае ўзвесці храм у душы.**

Навуковец, лаўрэат Рэспубліканскай прэміі «Залаты Купідон» Уладзімір Навумовіч у сваім артыкуле «Грамадзянінам быць абавязаны», прысвечаным 80-годдзю стварэння Саюза пісьменнікаў СССР і БССР, паказвае няпросты шлях станаўлення творчага саюза. Псеўдарэвалюцыянеры ў літаратуры абрынулі на майстроў слова шквал крытыкі. Нават ад Якуба Коласа яны патрабавалі «не пакінуць воласа».

Новымі паэтычнымі творамі парадавалі чытачоў часопіса Уладзімір Шугля, Таццяна Шпартава, Ала Янкова, Іван Юркін, Анатоль Гарай.

Дастойна прадстаўлена на старонках выдання і проза. Ніколь Вальс прэзентавала рамантычную навелу «Прозвішча». Упершыню выступаюць з апавяданнямі маладая масквічка Алена Тулушава (цёплае слова пра яе творчасць сказаў намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Наш современник» Аляксандр Казінцаў), Веніямін Бычкоўскі, Аляксандр Іваноў, а таксама Славамір Даргель. Нікога не пакіне раўнадушным глыбоцкая легенда Юрыя Татарынава «Аськіна горка». Доктар філалагічных навук прафесар Анатоль Андрэеў аднаўляе вобраз Першай сусветнай вайны ў мастацкай структуры паэмы Сяргея Ясеніна «Ганна Снегіна».

Раздзел «Навука» адкрываецца змястоўным артыкулам Івана Антановіча «Беларусь у свеце мадэрну і постмадэрну». Спасылаючыся на працу Максіма Багдановіча «Беларускае адраджэнне», якая ў 1916 годзе выйшла ў Маскве, вядомы філосаф, сацыёлаг і дыпламат асвятляе складаныя працэсы фарміравання нацыянальнай самаідэнтыфікацыі і этнічна-культурнай асновы. Прафесар БДУ Святлана Снапкоўская паказвае ўзровень рэгіянальнай адукацыі на тэрыторыі рэспублікі ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя. Кандыдат педагагічных навук дацэнт Наталля Якаўлева разглядае праблемы эстэтычнага навучання моладзі ў агульнаадукацыйнай школе.

Вельмі насычаны і раздзел «Духоўнасць». Доктар мастацтвазнаўства, загадчык кафедры Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных Таццяна Навуменка ў дыскусійным артыкуле «Пасля шастаковіцкага буму» даследуе тэндэнцыі сучаснага музыказнаўства. Яе калега Юлія Агішава ў артыкуле «Інтуіцыя вахтангаўскага генія» з захапленнем распавядае пра 100-гадовы юбілей Шчучынска вучылішча. Аспірантка Белдзяржуніверсітэта Вольга Клёцкіна звярнулася да стылізацыі ў сцэнічным і маскарадным касцюме тэатра Радзівілаў XVIII стагоддзя. І нарэшце, у часопісе аналізуецца свята беларускага пісьменства, якое адбылося сёлета ў старажытным Заслаўі.

**Уладзімір ВЯЛІЧКА,**
**в. а. галоўнага рэдактара часопіса «Белая Вежа»**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**31 кастрычніка** — *на свята сучаснай дзіцячай літаратуры, якое адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 13 (вул. Народная, 43а). Пачатак а 10-й гадзіне.*

**31 кастрычніка** — *на творчае пасяджэнне клуба аматараў фантастыкі, якое пройдзе ў чытальнай зале філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта (вул. К. Маркса, 31). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**4 лістапада** — *на прэзентацыю кнігі вершаў Ірыны Тулупавай «Чую і адгукаюся» («Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення СПБ»). Імпрэза пачнецца ў 14.30 у публічнай бібліятэцы № 21 (вул. Слабадская, 63).*

**4 лістапада** — *на творчы вечар паэтэсы Вольгі Норынай, у межах якога пройдзе прэзентацыя яе кнігі «Апошняя жанчына Дона Хуана». Мерапрыемства ладзіцца ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**5 лістапада** — *на свята сучаснай беларускай паэзіі і песні. У 10.30 вас чакаюць у публічнай бібліятэцы № 15 (вул. Талбухіна, 12а).*

*Стасункі*

# Лірычнае шматгалоссе

Бялградскія міжнародныя літаратурныя сустрэчы — форум не толькі вельмі прэстыжны, але і з даўнімі духоўнымі традыцыямі. Сёлета ў верасні яны ладзіліся ў пяцьдзясят першы раз. Удзел у іх узялі 34 майстры слова з 23 краін свету, у тым ліку і паэтэса з Піншчыны Марыя Кобец, прадстаўніца Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ.

Праграма фэсту вельмі насычаная: літаратурныя вечарыны, абмеркаванні, «круглыя сталы», дыскусіі, наведванне музеяў, прэзентацыі кніг, паэтычныя чытанні ды інш. Адметна, што Марыя Кобец прадставіла тут не толькі ўласныя творы, але і паэзію іншых берасцейскіх аўтараў, найперш зборнікі Валерыя Грышкаўца ды Анатоля Шушко.

Падчас сустрэч у Бялградзе была дасягнута дамоўленасць аб узаемаперакладах сербскіх і беларускіх аўтараў. Па выніках форуму выдадзены зборнік, які змяшчае пераклады вершаў М. Кобец на сербскую мову.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ, старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# Паэт любові і міру

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны юбілею з дня нараджэння вялікага персідскага паэта XIV стагоддзя Хафіза Шыразі. Перад шматлікімі прыхільнікамі паэтычнага слова з прамовамі пра значэнне яго творчасці выступілі кіраўнік Культурнага прадстаўніцтва Пасольства Ісламскай Рэспублікі Іран у Рэспубліцы Беларусь Сайед Джалалі і старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэт і перакладчык Міхась Пазнякоў.

На вечары гучалі вершы класіка персідскай літаратуры на рускай і персідскай мовах у выкананні студэнтаў і выкладчыкаў Белдзяржуніверсітэта, а таксама класічныя музычныя творы на вершы Хафіза Шыразі. Прагучала лірыка паэта і па-беларуску — у перакладзе Міхася Пазнякова.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Рыфмы Латвіі

Дні паэзіі, прысвечаныя класіку латышскай літаратуры Яну Райнісу, нядаўна прайшлі ў Латвіі. Да гэтай падзеі ў Даўгаўпілсе выйшаў чарговы зборнік паэзіі «Dzejas dienas» («Дні паэзіі»), куды ўвайшлі вершы на латышскай, латгальскай, рускай, польскай і беларускай мовах.

З беларускамоўнымі вершамі на старонках кнігі выступае Станіслаў Валодзька, які, дарэчы, за апошні час правёў некалькі сустрэч з чытачамі, узяў удзел у літаратурнай імпрэзе ў Цэнтры беларускай культуры, а таксама ў ІІ Фестывалі мастацтваў беларусаў свету, што прайшоў у Мінску.

А нядаўна ў межах Дзён беларускай культуры ў Латвіі, арганізаваных Саюзам беларусаў Латвіі, у Доме культуры нацыянальных таварыстваў (г. Рэзэкне) адбыўся канцэрт, дзе гучалі песні на вершы Станіслава Валодзькі ў выкананні беларускіх ансамбляў «Сузор'е» (г. Рэзэкне), «Завіруха» (г. Екабпілс) ды іншых вакальных калектываў.

**Людміла СІНЯКОВА, сустаршыня беларускага таварыства «Уздым», г. Даўгаўпілс**

# Выстаўка добрых усмешак

Выстаўка «Усмешкі з добраю душой» адкрылася ў мастацкай галерэі «VILNIUS» публічнай бібліятэкі № 18. У экспазіцыі прадстаўлена 33 шаржы на вядомых дзеячаў беларускай культуры. Аўтар работ — карыкатурыст Аляксандр Каршакевіч, намеснік галоўнага рэдактара часопіса сатыры і гумару «Вожык», удзельнік шматлікіх міжнародных конкурсаў. Творца — майстар сяброўскага шаржу — дасканала валодае малюнкам, жывапісам, кампазіцыяй.

Перад гасцямі выстаўкі ў незвычайных абліччах паўсталі творцы Раіса Баравікова, Алена Масла, Уладзімір Мазго, Навум Гальпяровіч, Анатоль Зэкаў, Ганад Чарказян, Уладзімір Ліпскі, спевакі Надзея Мікуліч і Анатоль Ярмоленка… Цяжка пералічыць усіх. Намаляваў аўтар і калег па «Вожыку» — галоўнага рэдактара Юлію Зарэцкую і мастака Сяргея Волкава.

Сяброўскія шаржы Аляксандра Каршакевіча вызначаюцца тонкім гумарам, выразнасцю. Мастак імкнецца падкрэсліць унікальнасць кожнай асобы. Дапаўняюць выявы кароткія эпіграмы, прысвечаныя творцам.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# «Шчырасць». Новы сезон

Распачаў свой новы сезон літаратурны клуб «Шчырасць», створаны ў пачатку 2013 года Мінскім гарадскім аддзяленнем СПБ і публічнай бібліятэкай № 22 г. Мінска.

Кіраўнік клуба — пісьменнік, старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў. За гэты час «Шчырасць» стала папулярнай сярод прыхільнікаў мастацкага слова.

Ганаровымі гасцямі клуба ўжо былі многія пісьменнікі, барды, спевакі і кампазітары. Пра яго пісалі журналісты, расказвалі па радыё і тэлебачанні.

Адкрыўся новы творчы сезон літаратурна-песенным вечарам, прысвечаным творчасці Міхася Пазнякова, прэзентацыі яго паэтычнай кнігі «Наталенне Радзімай», якая нядаўна пабачыла свет у РВУ «Выдавецкі дом «Звязда». Слова пра творцу сказаў вядомы літаратуразнавец і крытык, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Алесь Марціновіч. Прагучалі вершы Міхася Пазнякова ў выкананні супрацоўнікаў бібліятэкі, студэнтаў і самога аўтара.

Прысутныя — а сярод іх былі сталыя члены клуба, студэнты БНТУ, навучэнцы каледжа чыгуначнікаў і старшакласнікі СШ № 25 — з цікавасцю паглядзелі кароткі тэлефільм пра Міхася Пазнякова, зняты Ваенным тэлебачаннем для праграмы «Арсенал». Прагучала на вечары і некалькі песен на яго вершы ў выкананні Вячаслава Статкевіча і Аляксандра Якіменкі. Паэт адказаў на шматлікія пытанні слухачоў, якія таксама мелі магчымасць атрымаць кнігу з аўтографам і пазнаёміцца з кніжнай выстаўкай, прысвечанай творчасці М. Пазнякова і А. Марціновіча.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Пра самых блізкіх

Літаратурна-музычнае свята «Мама… Маці… Матуля…», арганізаванае сумесна з Мінскім гарадскім аддзяленнем СПБ і прымеркаванае да Дня Маці, прайшло ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 7.

Трапяткое стаўленне да маці — адна з традыцый беларускай літаратуры. Ды і родную мову нездарма называюць матчынай, бо менавіта маці ўвасабляе вобраз мудрай захавальніцы духоўнага скарбу.

Цешыць, што традыцыю класічнага прыгожага пісьменства, закладзеную Францішкам Багушэвічам, Янкам Купалам, Якубам Коласам, Максімам Багдановічам і годна прадоўжаную Аркадзем Куляшовым, Максімам Танкам, Сяргеем Грахоўскім, Яўгеніяй Янішчыц, падтрымлівае пісьменніцкае пакаленне XXI стагоддзя: вобраз маці жыве ў сучаснай прозе, паэзіі, драматургіі.

Лірычнымі ўспамінамі і развагамі пра самага роднага чалавека ў гэты вечар з публікай дзяліліся паэты Уладзімір Мацвеенка, Ірына Цвіркоўская, Кастусь Цыбульскі, Яна Явіч, Вольга Шпакевіч, Таццяна Барысюк, Іна Фралова, барды Ганна Чумакова і Марына Заманас.

**Арына КРАЙКО**

# Развітальна-сардэчнае



З добрым сэрцам і светлымі думкамі ён пражыў жыццё, хоць і нядоўгае, затое бурлівае, напоўненае творчасцю — журналісцкай, літаратурнай, а таксама грамадскімі справамі, чалавечымі цёплымі стасункамі.

Не, з гэтым звыкнуцца не атрымаецца яшчэ доўгадоўга. Як жа так?! У той самы дзень мы размаўлялі па тэлефоне, голас яго быў бадзёры, а напрыканцы размовы ён, як заўсёды, пажадаў: «Шчасця, здароўя, бадзёрасці духу зычыць ад сэрца Валодзя Сітуха». Нібыта развітваўся... Хоць наканаванае не прадчуваў нават ён сам такога хуткага сыходу ў іншасвет. Мы ж у той размове намецілі на бліжэйшы час шмат чаго зрабіць разам для ажыўлення літаратурнага працэсу Берасцейшчыны. Дый мне было чым падтрымаць-парадаваць калегу і земляка — яго апошняя прыжыццёвая кніга дзіцячых казак «Пра арэхі, сома і бабра», выпушчаная Выдавецкім домам «Звязда», была вылучана на сёлетнюю абласную літаратурную прэмію імя Уладзіміра Калесніка ў намінацыі «Дзіцячая літаратура». Але 22 кастрычніка перастала біцца сэрца пісьменніка. Ён сышоў так, як і жыў — на бягу, у дарозе, на паўшляху да чарговага твора...

А мы ж так даўно разам! Нават нарадзіліся амаль у суседніх вёсках Драгічынскага раёна: ён — у Гутаве, адным з самых паэтычных пасяленняў Берасцейшчыны, адкуль выйшлі ў вялікі свет выдатны паэт Мікола Федзюковіч, літаратуразнаўца Ала Кабаковіч-Тычына, а гэта ж усяго ў якім дзясятку кіламетраў ад майго Заверша.

Тут якраз дарэчы звярнуцца да біяграфіі Уладзіміра Сітухі. Нарадзіўся ён 16 чэрвеня 1950 года. Першыя літаратурныя творы былі змешчаны на старонках Драгічынскай раённай газеты ў школьныя гады. Неаднаразова станавіўся пераможцам конкурсу сярод літаратараў раёна. Быў заўважаны калегамі-творцамі і крытыкамі. Пасля заканчэння Гутаўскай сярэдняй школы быў запрошаны на працу ў Іванаўскую раённую газету «Чырвоная звязда». Актыўна супрацоўнічаў са шматлікімі выданнямі. Друкаваўся ў абласных і рэспубліканскіх газетах і часопісах.

Пасля службы ў войску працаваў у рэдакцыях раённых газет, на абласным радыё. Вучыўся ў БДУ імя У. І. Леніна на факультэце журналістыкі. Дыпломную работу ў Белдзяржуніверсітэце абараніў сваёй першай кніжкай нарысаў «Аўтограф на ніве», чым прыемна здзівіў членаў дзяржаўнай камісіі. Працяглы час працаваў уласным карэспандэнтам абласной газеты «Заря» па Іванаўскай акрузе. У гэты час кіраваў літаратурным аб'яднаннем «Ясельда». Дапамог многім пачаткоўцам-літаратарам.

Пасля першага зборніка адна за другой выходзяць яго кнігі прозы і паэтычныя зборнікі. Творы Уладзіміра часта з'яўляліся на старонках перыядычных выданняў. Многія з іх перакладзены на замежныя мовы.

Асабліва плённымі былі для Уладзіміра Сітухі апошнія два гады. Многа выступаў. Быў кіраўніком дэлегацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі на міжнародных форумах, дзе паспяхова прадстаўляў нашу літаратуру.

Але вярнуся да нашага асабіста агульнага. Вельмі ж яно помнае і дарагое. Знаёмства нашае адбылося ў 1987 годзе. Тады Уладзімір Мікалаевіч пераязджаў у Брэст на сталую працу ў галоўным перыядычным выданні вобласці. Дык вось, перад ад'ездам ён прэзентаваў мне як свайму спадкаемцу дзіцячы ложачак, у якім спалі ў свой час яго дзеці, а пасля — мае дзве дачушкі. Неяк раней пра тое не задумваўся, а цяпер як прасвятленне: гэта ж нашыя дзеці падрасталі ў агульным ложку. Няйначай, і з гэтай прычыны смерць Валодзі так балюча ўдарыла.

Дый не толькі з гэтай. Мы па жыцці праз пэўны час зноў апынуліся поруч. Да апошняга дня Уладзімір Сітуха працаваў у Брэсцкім абласным аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі, а таксама прадстаўляў на Берасцейшчыне рэспубліканскую рэдакцыйна-выдавецкую ўстанову Выдавецкі дом «Звязда».

Аказваецца, вялікія жыццялюбы таксама паміраюць. Але што датычыць Уладзіміра Сітухі, дык ён будзе жыць! Сваімі творамі, сваёй узнёсласцю і непаўторнасцю.

Светлая памяць. Высознага і прасторнага неба табе, дружа!

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці пісьменніка Уладзіміра Мікалаевіча СІТУХІ і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім Уладзіміра Мікалаевіча СІТУХІ з нагоды смерці нашага калегі. Разам з вамі падзяляем гэту вялікую страту.

## Галіна РАГАВАЯ



### Два надпісы

*На нейкі момант*
*толькі прыпыніцца,*
*Каб коней памяняць*
*для перагону.*
*А ўпаўшы, зноў устаць і не схіліцца*
*І так ісці няскораным да скону.*

*Або маўчаць, сустрэўшыся з нягодай,*
*Як звыклае прыняць і зло, і гора,*
*І перад неадольнай перашкодай*
*Без гневу галаву схіліць з пакорай.*

*На камені, што лёг на скрыжаванні,*
*Два надпісы: «Пакора» і «Змаганне».*

### Дарогі

*Я змалку люблю падарожжы.*
*Паклічце — умомант збяруся.*
*Ды толькі прашу:*
*калі можна,*
*Паехалі па Беларусі.*

*Дарог на планеце так многа!*
*Зямлю аплялі павуцінай.*
*Ды лепшая ў свеце дарога*
*Мне тая, што ў родных мясцінах.*

*Вялі па снягах мяне зімы,*
*Па слоце вяла мяне восень.*
*Але гэта сцежкі Радзімы,*
*І ногі спачыну не просяць.*

*Па моры, па рэйках бліскучых*
*Імчымся мы ў свет невядомы.*
*Ды самы жаданы і зручны*
*Мне шлях толькі той,*
*што дадому.*

***

*Жыву я: зімую, вясную,*
*Праз лета і восень вяслую,*
*Праз ночы, што ўсё халадзеюць,*
*Праз дні, дзе дажджыць*
*і мяцеліць.*

*Я вёслы штосілы сціскаю,*
*У заўтра вяслуючы з сёння.*
*А дні з іх, бы кроплі, сцякаюць,*
*Губляюцца ў часу бяздонні.*

*Пад чоўнам — віры і струмені,*
*І цяжка на плыні ўтрымацца.*
*Пад кроплі падстаўлю я жмені —*
*Яны працякаюць між пальцаў.*

*Лаўлю. Упусціць іх баюся.*
*Сцякуць — з чым тады застануся?*

## Настасся НАРЭЙКА



***

Майму вершу

*Прыйдзі. Нарадзіся.*
*Бо я без цябе не магу.*
*Дарма? Я не веру і верыць*
*ніколі не буду.*
*Мне дождж дасылае*
*У сінім канверце тугу,*
*А побач кляновы лісток,*
*што дрыжыць з перапуду.*

*Прыйдзі. Нарадзіся.*
*Бо я высыхаю адна.*
*Халодная восень з дажджамі,*
*напэўна, не пройдзе.*
*У розуму з грэшнай душой*
*Назаўсёды вайна,*
*Другога яна выяўлення*
*ніколі не знойдзе.*

*Прыйдзі. Нарадзіся.*
*Бо я бласлаўляла цябе.*
*Давай над паперай*
*і ручкай удвух пастаім.*
*Я сэрца сваё*
*Без канца аддавала табе,*
*Бо ты — пуцяводная зорка*
*у небе маім.*

***

*Ты прыходзіш позна*
*І святла не паліш,*
*Быццам бы баішся*
*Весніх воч маіх.*
*Не сказаў нічога,*
*А ўсё роўна маніш.*
*Зноў чужыя рукі.*
*Ненавіджу іх!*

*Ты сядзіш падоўгу*
*І глядзіш у неба,*
*Ты чакаеш, пэўна,*
*Покуль я засну.*
*Гэтага маўчання,*
*Болю — мне не трэба!*
*Не хачу нічога!*
*І ганю вясну.*

*Гэта фініш, мілы,*
*Гэта заканчэнне.*
*Трэба разысціся*
*Раз і назаўжды,*
*Не прасіць ніколі*
*Болей прабачэння,*
*Не вяртацца болей*
*Нам з табой сюды.*

*Не, я не шкадую.*
*Хто не памыляўся?*
*Зноў настане ранак,*
*Пойдзеш ты назад.*
*Гэты свет ніколі,*
*Пэўна, не спыняўся.*
*Зноў ты прыйдзеш позна.*
*Можа, не? Наўрад.*

***

*Рукі пахлі кменам,*
*Збожжам і дажджамі,*
*Залацістым сенам,*
*Спелымі садамі,*
*Дзікім грэчкі мёдам,*
*Недасяжным небам,*
*Шумным карагодам*
*І шчаслівым хлебам.*
*Рукі мелі права*
*Пахі тыя знаці,*
*Імі нас ласкава*
*Абдымала маці.*

***

*Развучылася чакаць.*
*Я не ўмею.*
*Мне ніколі не сарваць*
*Цуд-лілею,*
*Мне ніколі не ўплясці*
*Яе ў косы…*
*Як цябе цяпер знайсці,*
*Хлопчык босы?*
*Не магу я ўжо чакаць.*
*Ты далёкі.*
*Як цябе цяпер дагнаць*
*За тры крокі?*
*Болей я і не зраблю.*
*Не здалею.*
*Кінь на росную зямлю*
*Цуд-лілею!*
*Я убачу, што ты быў*
*Тут калісьці,*
*Вось і кветачку згубіў*
*Ў свежым лісці.*
*Забяру яе з сабой,*
*Каб уночы*
*Больш не кралі мой спакой*
*Твае вочы.*
*Калі ж Бог з'яднае зноў*
*Нашы лёсы,*
*Прыбяжыш ты сам дамоў,*
*Хлопчык босы.*

## Мікола ШАБОВІЧ



***

*Стаіць спякота-гарачынь,*
*Сасмягла вусціш.*
*І так асмуглена гарчыць*
*Журба на вуснах.*

*Каторы дзень такі прыпар —*
*Чаго прыкмета?*
*Пра дожджык нават і не мар —*
*Сухое лета.*

*Так санцапромніць небасхіл —*
*Хавайся ў засень*
*Ці набірайся новых сіл*
*Дзесь на тэрасе…*

*Вось паспрабуй тут адпачынь*
*У дзённай млосці.*
*Каго не спыніць гарачынь —*
*Прыходзьце ў госці!*

***

*Ад сівой даўніны мудрых думак сувой*
*Не згубіўся ў вяках і сягоння дарэчы:*
*«…Прад матуляй укленчы,*
*Айчынай сваёй,*
*А яшчэ прад настаўніцай*
*першай укленчы».*

*Не забудзь, хто табе адкрываў новы свет,*
*Хто вучыў шанаваць і Радзіму, і мову.*
*Пранясі па жыцці гэты сказ-запавет*
*І сынам перадай як святую замову:*

*«Дзе б ні быў, ні хадзіў ці адзін, ці з сям'ёй,*
*У апратцы сялянскай ці, можа, у фрэнчы,*
*Прад матуляй укленчы, Айчынай сваёй,*
*А яшчэ прад настаўніцай*
*першай укленчы».*

*І тады Бог дарує правіны твае*
*І падасца жыццё зразумелым і цэльным.*
*Толькі думка адна мне заснуць не дае:*
*Вельмі мала сваіх мы настаўнікаў цэнім.*

*«Дзе б ні быў, ні хадзіў ці адзін, ці з сям'ёй,*
*У апратцы сялянскай ці, можа, у фрэнчы,*
*Прад матуляй укленчы, Айчынай сваёй,*
*А яшчэ прад настаўніцай*
*першай укленчы».*

***

*Па-ранейшаму верыцца*
*І, як колісь, наіўна здаецца,*
*Што ўсё добрае вернецца,*
*А напісанае — застанецца.*

*Па-ранейшаму верыцца,*
*Што не ўсё прадаецца за грошы,*
*Што для веры і вернасці*
*Прыйдзе час немінуча-харошы.*

*Па-ранейшаму верыцца,*
*Што бясследна нішто не знікае*
*Ні ў далёкай Амерыцы,*
*Ні ў маім распакораным краі…*

*Па-ранейшаму верыцца…*

***

*Новы дзень распрамляе*
*наросхліст крыло —*
*І наноў ажываюць сумненні-трывогі:*
*А ці ўсё, што рабіў, неабходным было,*
*Мо таптаў не свае, а чужыя дарогі.*

*Мо ў жыцці не пазбег ні дзяльцоў, ні падліз*
*І пачуцці свае раздаваў без разбору?*
*Мо прад дужым трымцеў, як асінавы ліст,*
*А прад слабым дык голаў закідваў угору?*

*Мо залішне маўчаў, абыходзіў бяду,*
*Лёгкі флірт выдаваў за святыя пачуцці,*
*Раз апёкшыся, дзьмуў столькі год на ваду,*
*Па бяспуцці ішоў і не выйшаў з бяспуцця?..*

*Новы дзень распрамляе*
*наросхліст крыло —*
*І наноў ажываюць сумненні-трывогі:*
*А ці ўсё, што рабіў, неабходным было,*
*Мо таптаў не свае, а чужыя дарогі…*

***

*Навакол — зямная прахалода.*
*Дождж пайшоў спаволенай хадой.*
*І сады ўздыхнулі, і гароды,*
*Дажджавой абмытыя вадой.*

*Ажылі прывялыя ўжо травы,*
*Кветкі ўверх прыўзнялі галаву,*
*І дубок маленькі кучаравы*
*Нібы шэпча некаму: «Жыву!»*

*Сінява выглядвае з-за хмары*
*Бы чакае вызвалення міг.*
*Хутка сонца зноў загаспадарыць*
*На абшарах вечнасці сваіх.*



*Фота Кастуся Дробава*

Браніслаў ЗУБКОЎСКІ

# Падарунак Якуба Коласа



Волесь з сынам напрыканцы сакавіка паставілі вулей на ўжо добра падсохлым грудку за лесвічоўкай.

— Гэта каб макрэча не пашкодзіла пчаліную хатку, — патлумачыў Міколку бацька. — А то ўваб'ецца шашаль ці гнілец у вулей завядзецца. Закажанеюць тады пчолы, выпруцяцца, — падганяе Волесь падыспад вулля драўляныя цубікі з драніцай.

— Вільгаці і сена баіцца, — згаджаецца Міколка. — Не так сабе ты, тата, паленцамі сцежар стога вымасціў, каб зоўшыца, як кажа мама, не згнаіла сена.

Словам, меў клопату Бранавіцкі. У Мінск талькаўскім цягніком з'ездзіў, у сталічный краме штучныя соты купіў. Не дарэмна з'ездзіў. Вашчына спатрэбілася ў гаспадарцы. У ваду апусцілі трохі воску, і Волесь апырскаў растворам вулей.

— Пах воску прываблівае пчол, — заўважыў Якуб Колас, які акурат адпачываў у Загібельцы. — Вулей, — сказаў Волесю, — дыхаць павінен.

А Міколка нават пахваліўся.

— Перад тым як напырск зрабіць, тата бутэльку з воскам у лес аднёс, у мурашнік паставіў, каб падкіслілася абмазка, — прызнаўся хлапчук Коласу, які быў заўсёды ў курсе ўсіх спраў сям'і Бранавіцкіх.

Колас Міколку хваліў. «Спраўны памочнік у цябе расце, дапытлівы», — сказаў Волесю.

— За бацькам сядзець і нічога не ўмець? — аджартаваўся Бранавіцкі, пад паветкай хлеўчука вышукоўваючы з Коласам дымар.

Бранавіцкі на вёсцы — чалавек паважаны. Начытаны. Пушкіна і Гогаля любіў, а Някрасава ведае са школы.

А кузку з бяросты, інакш кажучы, раёўню, дзядзька Колас майстраваў на пару з Міколкам. Кузка неўзабаве спатрэбілася. Уранні ўбіўся пад страху Волесевай хаты рой-другак. Бранавіцкі ў гэты час на абходзе быў. Па загадзе Коласа Міколка бягом па кузку, а Канстанцін Міхайлавіч па драбінкі ў хляўчук кінуўся.

— Вядзерца з вадзіцай прынясі, — папрасіў Колас Міколку, узбіраючыся на драбінкі. — І трапкач з хаты прыхапі заадно.

Акрапілі рой, дастрэнчылі, знялі з мыцішча пчол, да латка гасцейкаў аднеслі.

Вольга Сціпанаўна пажалілася суседу Івану Лютарэвічу:

— Паляруш яго ведае, што б я рабіла адна з роем, калі б не хлопцы, — не магла ацерабіцца жанчына ад усхваляванасці.

— Цёплы, багаты дом ваш будзе, — адрэагаваў Іван, былы далёкаўсходні марак. — Паводле павер'я, Сціпанаўна, так яно атрымліваецца: прычапілі пчолы да хаты — быць дабру, — падбадзёрыў суседку.

Супакоеная Вольга Сціпанаўна, размешваючы ў цабэрку корм парсюку, пацікавілася ў Коласа:

— Усё нешта мы пра пчол ды пра пчол. От раскажыце, у якіх строях жанчыны ў вашай мясцовасці шпацыруюць? Да прыкладу, сукенка святочная. Як яе называюць у вашых краях?

— То пранэлька, — ажывіўся Колас. — Для розных часоў свая апратка. Фацэтныя, ганарлівыя шляхцянкі шапку нават з футра насілі. Кушнерка. Так называецца гэты ўбор.

— А нашы паненкі ў пацяганках ходзяць. У кажушках,— уключыўся ў размову Волесь, вярнуўшыся з лесу. — І хораша ў кажушках глядзяцца маладзіцы,— весела пaглядзеў Волесь на Канстанціна Міхайлавіча.

Не хаваў сваёй радасці Волесь, даведаўшыся, як Колас з Міколкам рой утаймавалі. Ён цяпер у прыглядзе, гэты самаўпраўны рой. А Колас параіў:

— Каб матку ўтрымаць у вуллі — трэба рашотачку на латок паставіць.

— Звычайна так мой дзядзька Антось, брат бацькі, рабіў, — працягваў Канстанцін Міхайлавіч. — Казаў, калі матка пакіне вулей — усёй сям'і пчалінай дрэнна будзе.

— Жывы дзядзька?

— Памёр на Мікалаеўшчыне 17 гадоў таму, — уздыхнуў Колас.

— Прабачце, — ціха мовіў Волесь.

Пчаліную матку падпільнавалі. З латка знялі, у матачнік справадзілі.

Коласа ў сям'і Бранавіцкіх любілі. Асабліва Міколка прывязаўся да пісьменніка. У лес — разам, на возера Грымячае, на рыбалку, прыхапіўшы вудачкі, таксама разам.

Там, на возеры, у чапцы, рыбацкім чоўне, Міколка і спытаў у дзядзькі Коласа:

— Мой тата кажа, што пчолы — музыкі добрыя. Праўда? — стаіў дыханне хлопчык у чаканні адказу.

Колас пакінуў веславаць, усміхнуўся.

— Музыкі, кажаш. Пчолы сапраўды звіняць, надараецца. Гэта калі рой без маткі. Вось тады і равуць, нібы дзіцёнкі малыя. І пра пчол-разведчыкаў магу табе расказаць. Пчолы ў разведку выбіраюцца ў пошуках меданосаў. Не ўсе, праўда. Астатнія у вуллі чакаюць звестак разведчыц, — тут Канстанцін Міхайлавіч змоўк, бо выцягнуў з вады вялікую плотку зробленай з ляшчыны вудачкай.

А Міколка задумаўся. Ды толькі на хвілінку. Бо тут жа выдаў:

— У пчол, відаць, свой штаб з даручэннямі ёсць. Як у вайскоўцаў.

— Усё можа быць, — згадзіўся з думкай Міколкі Колас. — У нас пра пчаліную разведку кажуць: скаляваць пчолы пайшлі. Вярнуўшыся да вулля, яны каля латка такія выкрутасы выраблююць, ходзяць васьмёркай: тым, што ў вуллі засталіся, знак даюць, паказваюць, у якім кірунку па ўзятак ляцець.

— Здорава! — вырвалася ў Міколкі.

— У пчол усё напагатове. Як і ў добрых людзей, — а Канстанцін Міхайлавіч, закінуўшы вудачку ў азярцо, працягваў: — Пчолы і цырульнікамі становяцца. Калі ўзяткі канчаюцца, пчолы, братка, трутням крылы стрыгуць і выкідваюць дармаедаў з вулля.

Пра пачутае ад Коласа на возеры Міколка бацьку расказаў.

— Пчолы яшчэ і хлеб выпякаюць. Як залепяць ячэі гэтай пяргой — рамку тады з вулля і забірай, — адукаваў Волесь сына.

— А на смак пчаліны хлеб салодкі?

— Дай час, паспрабуеш, — паабяцаў тата.

У чэрвені Колас пакідаў Загібельку. Ад'язджаў з Мінска ў Парыж на міжнародны кангрэс у абарону культуры.

У Загібельку, якую лічыў лепшай за Парыж, завітаў з сям'ёй 15 ліпеня 1935 года.

Перад вячэрай гаспадар ліпавы карэц паставіў на стол. Хацеў госця пачаставаць бурштынова-рубінавым мёдам. Праўда, Волесь за сталом абмовіўся наконт верасовага мёду. «Не аказалася яго чамусьці ў сотах», — бедаваў ляснік.

— Верасовы мёд пчолы не крыюць, не пячатаюць, малачком не заліваюць гнездавыя рамкі. Бо мёд густы, — растлумачыў Канстанцін Міхайлавіч. — Такая вось турбацыя, — засмяяўся.

— Бачыш ты. У пчол свае сакрэты і законы, — азвалася Вольга Сціпанаўна. — Усё ведаць трэба, — падкручвала карэткі калаўрота, каб тужэй нацягнуліся шнуры пралкі.

— А я вам медагонку прывёз, — падняўся з-за стала Колас і накіраваўся да ёмістага рукзака, што горбіўся на лаўцы.

Ну, так яно: пчаляр павінен ведаць, дзе трэба ставіць вулей ранняй вясной, як утаймаваць малады рой, каб не апусціўся на дрэве, як правільна глядзець пчол, тады і без медагонкі не абысціся.

# Дзве кантрамаркі

Віктар выняў з кішэні картовага пінжака дзве грушы і працягнуў кінамеханіку:

— Паспрабуйце. Смачныя. Нават восы іх любяць.

— Восы, восы, дзе вашы косы, — падкінуў угару, жангліруючы пераспелымі дулямі, вясёлы кінамеханік. Рабром далоні раскалоў грушу на дзве палавіны.

— А нічога. Пасаліўшы, з'есці можна, — пажартаваў.

Запусціўшы рухавічок кінаперасоўкі, працягнуў Віктару вядзерца:

— Скокні да калодзежа, прынясі вады.

Пасобіў і я, паліваў на запэцканыя рукі кінамеханіка.

— У кіно прыйшлі? — спытаў ён.

— У кіно, — адказаў Віктар, сумеўшыся.

— А грошай, канечне, няма на білет?

— Няма, — прызнаўся я.

— Правесці на «Чапаева», хлопцы, не магу — кантралёр не дазволіць. Ён, змій люты, безбілетнікаў не любіць.

— Пойдзем, Пеця, дадому, — падняў з долу сваю армейскую сумку Віктар. — Уходжвацца трэба, маці яшчэ на працы.

— І вялікая гаспадарка ў вас? — пацікавіўся кінамеханік.

— Каза ды кот, — адказаў я за сябра. — Ды яшчэ дзве куркі, што гуляюць у жмуркі.

Мой жарт рассмяшыў кінамеханіка.

— Ладна. Паспрабуем прарвацца. Параду дам. Падыдзіце да кантралёра. Далажыце па-ваеннаму: так, маўляў, і так, нашы ў зале. Мы ж спазніліся. Дазвольце далучыцца да армейскага гурту. Як толькі ён, выслухаўшы ваш рапарт, пад казырок возьме, дык вы кумільгом у фае.

— А калі ён пратурыць нас? — спытаў я.— Мы ж без вайсковай вопраткі: нават пілотак няма.

— Праўда, калі дзядзька Янук пачне распытваць, з якога вы палка, скажыце, што гэта ваенная тайна.

Кантралёр ужо сядзеў на прыступцы клубнага ганка. Адклаўшы ўбок мыліцу, час ад часу пагладжваў калена. Усіх прапускаў у кіно, хто білет на руках меў. Патаптаўшыся на месцы, мы з Віктарам Аляксейчыкам збіраліся распачаць сваю аперацыю, як пачулі пагрозлівае:

— Ну што, безбілетнікі, ад варот паварот! — уміг выбіў кантралёр з нашых галоў «навуку» кінамеханіка.

— А мы і не збіраліся ў кіно, — сказаў я. — Мы тут камандзіра свайго чакаем, маёра нашага.

— Ну ты і жэўжык! Дарэмна палохаеш мяне. Я, братка, на фронце не толькі маёраў, але і генералаў нямала пабачыў. Праўду-матку рэзаў у вочы, хоць быў ім не па чыне.

— А ў нас сёння на вячэру дранікі будуць, — ні з таго ні з сяго сказаў я.

— У кіно пушчу. Але толькі таго, хто мае добрыя адзнакі ў дзённіку. Так што прад'явіце школьны дакумент. — Былы вайсковец шнырыў вачыма па дзённіку Віктара.

— Троек не пералічыць. Бацька твой хоць зрэдку ў дзённік заглядае?

— У яго няма бацькі. Загінуў на фронце, — сказаў я.

Шнар на скроні кантралёра завішнявеў.

— Род войск назаві, які занятак меў у арміі твой бацька? — пацікавіўся.

— Бацька пры вызваленні Мінска загінуў, — прамовіў Віктар глуха і адвярнуўся.

— І даведка ёсць? — дапытваўся кантралёр.

— Ёсць. Маці яе за абразамі хавае, — прызнаўся Віктар, пракаўтнуўшы даўкі камяк у горле.

— Пад Мінскам тады мы немчуры добра ўсыпалі. У кацёл нямецкую навалач загналі, — нервова звёў дзядзька Янук кулак над галавой. — Затым гналі вылюдкаў аж да Берліна.

— А ў мяне ў дзённіку па фізкультуры пяцёрка. Вы, можа, і не заўважылі з першага разу, — няcмела сказаў Віктар.

— Віця— лепшы спартсмен у класе. Да самага вяршка па нахіленай лесвіцы скача праз дзве драбіны, — пахваліў я сябра.

— Вось я пагляджу, які ты спартсмен. Вунь да таго слупа дапаўзі па-пластунску, — даў заданне дзядзька Янук.

Віктар зняў картовы пінжачок, апусціўся на ўсколенкі. Праз пяць хвілін, засопшыся, цяжка дыхаючы, стаяў перад франтавіком навыцяжку.

— Плечы трымаеш высока. Нямчура, кулямётчык іхні ўраз цябе выкасіць. Працуй локцікамі, — параіў былы вайсковец. — Жыць застанешся.

— А ў мяне пяцёрка па спевах, — сказаў я.— Пагляндзіце, — з надзеяй перадаў дзённік кантралёру.

— Ага! Ёсць пяцёрка, — пацвердзіў наяўнасць высокай адзнакі дзядзька Янук. — Саліст, кажаш. Ну, дык выдай мне што-небудзь ваеннае. Каб за душу ўзяло.

Даволі энергічна вывеў я першы куплет:

*Три танкиста, три весёлых друга —*
*Экипаж машины боевой…*

Ініцыятыву перахапіў Віктар:

*Броня крепка и танки наши быстры,*
*Пойдут машины в яростный поход.*

— Вось гэта па-нашаму, — павільгатнелі вочы ветэрана. А мяне паўшчуваў: — Лянота цябе, відаць, абуяла, тройкамі абсыпаўся. Сорам.

Заступіўся за мяне Віктар:

— Пеця праз дзень кароў на пашы глядзіць. Цэлы статак. А потым даганяе ў школе прапушчанае.

— Дык, кажаш, бацька пры вызваленні Мінска загінуў. Танкістам быў? Чэсна?

— А вы сумняецеся? — твар Віктара перасмыкнуў боль.

Ён павольна сышоў з прыступкі ганка, моўчкі падаўся да весніц. Напамін пра бацьку зачапіў майго сябра за жывое.

— Дагані яго, вярні, — папрасіў кантралёр. — Пакрыўдзіўся, бачыш. Я ж хацеў пра яго бацьку больш падрабязна распытаць. Можа, мы з ім, аднапалчанінам, у адным батальёне немцаў пад Мінскам калашмацілі, — пацягнуўся дзядзька да карабка з сярнічкамі. Нервова закурыў. — Звіняй, хлопча, — пачаў расціраць нагу. — Ные вот. Нервы... Даймае пякотка. Тузае, — уздыхнуў самотна.

Затым выняў з кішэні гімнасцёркі дзве кантрамаркі і працягнуў мне.

— Спатрэбіцца ў наступны раз. Перадай свайму сябру.

Цягам часу мы з Віктарам не раз успаміналі ветэрана. Тады, напрыканцы 40-х гадоў, мы яшчэ не маглі спасцігнуць сутнасць натуры гэтага неспакойнага, рэзкага, знерваванага чалавека. Разуменне прыйшло пазней. А тады... Захлынуўся дзядзька Янук ад болю, не могучы ацерабіцца ад жудасных праяў вайны, якая адабрала яго здароўе, пакалечыла. Абвостраная памяць ветэрана не раз вяртала яго ў тыя віхурныя гады змагання з фашызмам. Гэта была драма чалавека, які прадаўжаў жыць у той праклятай вайне, пакутуючы штодня ад болю: несціхана смылела рана былога танкіста, які, набліжаючы час Перамогі, засланіў сабой усіх нас ад фашысцкай нечысці.




# Вераснёўская лірыка

Падборка вершаў Міколы Чарняўскага — лёгкі і ўзнёслы гімн Дзвіне і Купалавай Арэсе, і хоць «час загнаў яе ў каналы...», «там, дзе можна, волю даў», яна ўсё яшчэ прыцягвае да сябе: «Не змялееш у народзе, // Ты, // Купалава рака!» Так рака Арэса становіцца сімвалам творчай моцы Янкі Купалы і ўвогуле магчымасці стварыць у няволі: «Хоць каналы, як парэзы, плынь спаволілі яе». Да вершаў-гімнаў дадаюцца вершы з містычнымі назвамі рэчкі Цемры ды возера Малочнага, якія правакуюць аўтара на стварэнне загадкавага і містычнага зместу. Дадаюцца да гэтай містычнасці яркая вобразнасць і лёгкая стылізацыя пад народную творчасць.

Лірычны герой Валерыя Максімовіча падкрэслівае каштоўнасць імгнення, «пакуль я тут», «у краі гэтым слаўным і прыгожым». Але пры гэтым ён раіць чытачу, да якога звяртаецца па-сяброўску «дружа», «імкнуць наперад цераз крутагор'е» жыцця і так гэтае жыццё любіць, каб «хоць макаваю дробкаю малой // Ў зямным жыцці аднойчы паўтарыцца».

«Душу-скарбонку» паэткі Вольгі Шпакевіч можна параўнаць з дыванамі-маляванкамі Язэпа Драздовіча, у якіх паўстае вобраз душы простай, адкрытай усяму свету:

*«А на самым дне скарбонкі*
*Для вяселля і для ўцех*
*Столькі песень, песень звонкіх,*
*Што ірвуцца узляцець!»*

Адносна твораў Зінаіды Дудзюк слова «проза» можна ўжыць у двух сэнсах: проза як род літаратуры і проза як «праўда жыцця». Ада Ліцвінка, гераіня аповесці «Закон захавання кахання», уяўляецца гэткай караткевічаўскай жанчынай, якая сышла на старонкі твора быццам бы не з 90-х (такі час акрэсліваецца ў творы), але з 70-80-х гадоў мінулага стагоддзя — з душой таго часу, з адпаведным настроем, хваляваннямі і пытаннямі.

Караткевічаўскае выяўляецца, напрыклад, тады, калі чытач даведваецца, што гераіня плануе напісаць пра «Маскву беларускую», якая нараджаецца ў яе разам з марaю вучыцца на Вышэйшых курсах пры Літаратурным інстытуце, куды яна паступае, каб нарэшце змяніць уласнае жыццё. Але ці прыносіць ёй шчасце гэтая змена? І ўвогуле, у чым заключаецца шчасце Ады Ліцвінкі, менавіта *ліцвінкі*? Што ёсць для яе творчасць і дзе яе вытокі? Яны вынікаюць са шчасця ці з саміх пошукаў яго?

«Толькі любоў і з'яўляецца прычынай усялякай творчасці», — адказвае гераіня.

З назвы аповесці «Закон захавання кахання» нібыта вынікае, што аўтарка ўрэшце рэшт раскрые нам гэты закон, што, прачытаўшы твор, чытач знойдзе надзейныя формулы, якія дапамогуць спраўдзіць жаданае. Звычайна для разумення нечага нам прыводзяць доказы і складаныя алгарытмы, малююць схемы... У аповесці ролю схем і малюнкаў выконваюць своеасаблівыя вершаваныя ілюстрацыі.

Тры апавяданні Алеся Ветаха «Ноч перад Вялікаднем», «Вочы ў вочы», «Казачная ноч зарападу» таксама нагадваюць абразкі, напоўненыя лірызмам; часам нават здаецца, што гэты лірызм знайшоў выйсце, не рэалізаваўшыся ў вершах, і таму стаў набыткам прозы з хрысціянскім гуманізмам. У кожным апавяданні прасочваецца аўтарская ўвага, вельмі пільная, да духоўнай спадчыны беларускага народа; увага да ціхай беларускай душы, якая здолела захаваць і перадаць любоў да неба будучым пакаленням, захаваць веру, якую «ніхто не змог адабраць, бо яна цаплілася ў сэрцы, жыла, хай сабе і таемна, абуджалася і мацнела ў самых няпростых і цяжкіх абставінах».

Але не толькі лірыкай адметны вераснёўскі нумар «Полымя». Ён змяшчае і дэтэктыўнае апавяданне Уладзіміра Мажылоўскага «Не пераступіць мяжу...», і шэраг пазнавальных крытычных і літаратуразнаўчых артыкулаў Васіля Жураўлёва, Валянціны Локун і Алены Карп, а «Эпісталярый» друкуе невядомыя дагэтуль лісты Максіма Танка і лісты Янкі Брыля.

**Аксана ЮЧКАВІЧ**

# Галоўныя пытанні з адказамі і без

Сур'ёзны і строгі (асабліва да сумлення чытачоў), напоўнены пытаннямі, якія чалавецтва вызначыла для сябе як галоўныя, — такі атрымаўся вераснёўскі нумар часопіса «Нёман».

Высокую ноту бярэ твор, якім адкрываецца нумар. Гэта пачатак аповесці Уладзіміра Дамашэвіча «Фінская лазня». Калі мы прамаўляем слова «вайна» — руска-фінская яна, ці сусветная, ці грамадзянская Поўначы і Поўдня — на розум прыходзяць адны і тыя ж асацыяцыі, адны і тыя ж гукі чуюцца нам: крыкі ахвяр і стрэлы. Хапае гэтага і ў «Фінскай лазні», але пачынаецца твор з іншага: з белага, чыстага, пазбаўленага ўсякага следу снегу. Які ўдалы фон для гісторыі чалавека на вайне!.. Але разам з тым «пісаць» на ім цяжэй, бо лішні штрых адразу кінецца ў вочы. Нельга сказаць, што гэтых лішніх штрыхоў у аповесці няма зусім. Так, у мове галоўнага героя Васіля Калатая часам трапляюцца словы, якія наўрад ці мог бы ўжыць малады чалавек з яго адукацыяй і ў такіх жа абставінах. Такое ж уражанне пакідаюць узгадванні Янкі Купалы, Якуба Коласа і Кандрата Крапівы: наўрад ці хлопец-спартсмен, які трапіў у палон да фінаў, стане прыгадваць, а што ж на пэўны конт казалі ў свой час беларускія класікі. Зрэшты, і аўтара можна зразумець: яму быў патрэбны, з аднаго боку, герой, вынослівы фізічна, з іншага — носьбіт беларушчыны: слова, ідэі, поглядаў. І не тое каб гэтыя характарыстыкі знаходзіліся ў супярэчнасці, усё ж у жыцці яны не заўжды спадарожнічаюць адна адной. Пытанне нацыянальнае ў аповесці шчыльна сплятаецца з іншым, кажучы словамі Багдановіча, «Нашто ж на зямлі / Сваркі і звадкі, боль і горыч, / Калі ўсе мы разам ляцім / Да зор?» Герой разумее, чаму вядуцца войны, але «нашто» не дае яму спакою.

Аповеды Юрыя Пелюшонка «Ленцік і Гес» і «Глеб Кірылавіч і...» пры жаданні можна было б разгарнуць да раманаў, але аўтар не стаў гэтага рабіць, праз што выйгралі і ён сам, і яго чытач. «Калі Ленцік пайшоў у першы клас, Гес быў першым намеснікам Гітлера ў нацысцкай партыі. Ленціка і Геса, натуральна, нічога не звязвала, акром таго, што жылі яны ў Еўропе, раздзеленыя некалькімі сотнямі кіламетраў. Ленціку ад Геса нічога не трэба было, а вось партыйным саратнікам Геса з нейкай нагоды спатрэбілася краіна, у якой жыў Ленцік...» Казачны тон апавядання робіць чытача не саўдзельнікам страшных падзей, але зацікаўленым слухачом. Нават тое, што падзеі насамрэч страшныя, усведамляецца *па* прачытанні, бо *падчас* яго вы зачараваная ўслухоўваецеся ў аповед. І гэта ўспрымаецца як індыкатар пісьменніцкага майстэрства. У «Глеба Кірылавіча» гучанне крыху іншае, хоць адасобленасць захоўваецца. Апавяданне нагадвае адразу некалькі рэчаў: «Ён» Андрэева, містычныя творы Чэхава, у меншай ступені — «бесаўшчыну» Дастаеўскага. Прычым падабенства прасочваецца не толькі на ўзроўні ідэй, на якіх будуецца развагі героя; гэтыя ідэі накладаюць адбітак і на стыль апавядання.




Цікавыя аўтабіяграфічныя (сапраўды так?) нататкі прадстаўляе чытачу Зінаіда Краснеўская: тут можна пачытаць пра доктара Адамовіча, пра яшчэ адно вялікае каханне Караткевіча і іншыя калялітаратурныя гісторыі.

Паэтычная частка падтрымлівае настрой, створаны прозай. Ганад Чарказян засяроджвае ўвагу на ўсё тых жа галоўных пытаннях чалавецтва, хоць і вырашаюцца яны кожным асабіста: маладосць і старасць, час у чалавеку і чалавек у часе, памяць — зноў жа як частка часу. Мікалай Балдоўскі і Эдуард Дубянецкі не менш уважліва прыглядаюцца да іншага нашага суседа — прыроды. Георгій Барташ пераклаў для рускамоўных чытачоў пацешныя опусы Змітра Баяровіча; таксама можна пачытаць вершы Таццяны Барысюк. Завяршае беларускую мастацкую частку аповед Алеся Бадака «Ідэальны чытач».

Што да замежнай літаратуры, яе прадстаўляюць аўтары з Паўночнага Каўказа — Хасані з вершамі і Лула Куні з навеламі, дацкая пісьменніца Ханне-Вібеке Хольст з главамі з рамана «Пацалунак уночы».

Дакументальна-эсэістычна-крытычны складнік дзявятага нумара займальны не менш за літаратурна-мастацкую частку і таксама пакідае пытанні з адказамі і без. Таму, калі вы яшчэ не ўзяліся чытаць часопіс, — бярыцеся: восеньскія вечары не будуць пустымі.

**Наста ГРЫШЧУК**

# І ніякіх абдымкаў!

Вераснёўскі нумар «Маладосці» запрашае чытачоў у літаратурную вандроўку па Палессі, якая распачыналася падарожжам галоўнага рэдактара «Маладосці» шляхамі Уладзіміра Караткевіча. Невялікая кампанія праз 45 гадоў выпраўляецца ў веласіпедны паход па маршруце вядомага пісьменніка: надвор'е, уражанні, краявіды параўноўваюцца з адпаведнымі пасажамі ў артыкуле У. Караткевіча і пры нагодзе ўдакладняюцца цытатамі са «Званоў у прадонных азёр». Вандроўка знаёміць чытача з абліччам сучаснага Палесся: кукурузнае мора, вёскі Авангард — Перадзелкі — Пустая Града, кветкавае мора, цырульня «Он и Она», веткаўскі музей, шыкоўная Прыпяць… Насельнікаў гэтых мясцін прадстаўляюць баба Зіна, якая смачна гатуе «конікаў» ды «чырвы», і амаль «лукаморскі» кот.

Невялікая колькасць персанажаў у першым артыкуле надалей выдатна кампенсуецца багаццем герояў, суразмоўцаў і, вядома, аўтараў. Дзявяты нумар «Маладосці» прапануе інтэрв'ю з самымі рознымі людзьмі: тут і дырэктар Нацыянальнага парку «Прыпяцкі», і паэт Сяргей Сапоненка, які жыве ў Каліфорніі, а друкуецца «па ўсім свеце». Героі крытычных артыкулаў «Гомельскага сшытка» — А. Сыс, А. Разанаў, В. Жыбуль. Вершаваныя падборкі Марылі Шлык, Насты Кудасавай і Дар'і Дарошкі, магчыма, натхняць даследчыку М. Кірушкіну на далейшыя роздумы над асаблівасцямі жаночай паэзіі.

Проза нумара прадстаўлена творамі для юнацкай аўдыторыі: гэта аповесць Сяргея Балахонава «Без ста гадоў на разгадку» і ўрывак з аповесці Ніны Шкляравай «Блажэнная». Твор С. Балахонава мае цікавы пачатак, але калі на сёмай старонцы шчаслівы уік-энд маладой пары перапыняецца збіненнем каханай, варта чакаць самых сумных неспадзёвак. Жахлівае злачынства? Здрада? Выпрабаванне пачуццяў і мужнасці героя? «Нерэальнае, быццам гэта сон ці трызненне» здарэнне прадчувальна выліваецца ў простую «мараль»: «Не трэба празмерна раўнаваць каханую», — такую выснову павінны зрабіць хлопчыкі, а вось магчымыя высновы дзяўчат аўтар, напэўна, не пралічыў. Тэкст Ніны Шкляравай адметны добрай мовай і рэлігійным пачуццём, але каб выявіць сучасную праваслаўную сям'ю, трэба быць пільным і не злоўжываць елеем.

У палескім нумары «Маладосці» прадстаўлена і творчасць маладых аўтараў з Украіны. Паэзія прываблівае тут больш за прозу, і падаецца, што ва ўкраінскіх паэтаў крыху больш не толькі літаратурных конкурсаў ды фестываляў, але і патрабавальнасці да сябе. Зрэшты, ладныя вершы — у тым ліку плён працы беларускіх




перакладчыкаў М. Аляхновіча, А. Шостака, Л. Наліўка.

Напэўна, галоўнае, чым трымае пры сабе літаратура, — магчымасць натрапіць на Твор, які ўздыме, захопіць, ахіне, а ўсе званочкі, абдымкі, сляды, вятры застануцца ўбаку і будуць гучаць глуха-глуха. Гэтым разам яно адбылося: Вікторыя Бруцкая, «Вайна пацыфіста». Твор крыху больш за старонку, часу ў ім — адзін дзень вайсковага лекара. А можа, і стагоддзе. «Прывозяць параненых, людзі — проста мяса, камусьці зноў адшматавала канцавіну. Калі шмат параненых — гэта добра, калі іх мала — гэта значыць, што большасць складаюць забітыя. Ты зноў рэжаш і шыеш, уся ўвага сканцэнтравана на іх, яшчэ цёплых». «Зрэшты, кожнае цела ў тваіх руках калісьці кідалася на іншыя такія ж целы з намерам раздзерці». Магчыма, кроў, выбухі, смерць заўсёды пакідаюць больш моцнае ўражанне, чым скаргі на каханага. Магчыма, справа ў кантрасце. Магчыма, кожны аўтар гэтага нумара меў на мэце напісаць амаль такія ж радкі, але пачуццё, словы і кароткі сюжэт не знайшлі адно аднаго. Добра, што натхненне часам здараецца і некаму з ім шанцуе.

А каб не завяршаць агляд нечакана сумна, зазначым, што Эдвард Тамаш Масальскі ў сваіх успамінах ужо адсядзеў у астрозе за справу філарэтаў і дапамог Тамашу Зану падрабіць статут таварыства. Так — ад Караткевіча да філарэтаў — завяршаецца «Маладосць».

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Жыве ў Гарадку паэтэса...




*Наталля Саветная. Убачыць вецер. Кніга лірыкі (на руск. мове). — Мн.: «Чатыры чвэрці», 2014.*

У Гарадку, што на Віцебшчыне, Наталлю Саветную ведаюць: яна, кандыдат псіхалагічных навук, практыкуе ў сваёй галіне як урач, аказвае псіхатэрапеўтычную дапамогу тым, хто мае ў гэтым патрэбу. Людзі ёй удзячныя.

Ведаюць яе і як пісьменніцу, паэтэсу, аўтара многіх кніг (піша па-руску). Урач і паэтэса. Такое спалучэнне вядома літаратуры здаўна, дастаткова ўспомніць лекарку-пісьменніцу Саламею Пільштынову-Русецкую (XVIII ст.), якая практыкавала і ў сябе на радзіме — у Вялікім Княстве Літоўскім, — і ў Турцыі, Расіі… Шмат дапамагала людзям па медыцынскай частцы ахвярная Цётка — Алаіза Пашкевіч. Можна згадаць і іншых, у тым ліку нашых сучасніц. Пра Н. Саветную кажуць: «Яна лечыць душы». Гэтаму, па сутнасці, прысвечаны яе паэзія і эсэістыка, прадстаўленыя ў новай кнізе з прыгожай назвай «Убачыць вецер». Атрымліваецца, што літаратурная творчасць — працяг яе лекарскай практыкі, якая дапамагае назапашваць пачуцці, павялічваць жыццёвы патэнцыял, так патрэбны пісьменніку.

Псіхалогія і паэзія — рэчы сумежныя, узаемапранікальныя і ўзаеманеабходныя. Праўдзівае, шчырае слова паэта дабратворна ўздзейнічае на чалавечую душу, асабліва душу збалелую. Але род заняткаў чалавека ўсё ж такі не роўны яго асобе і не вычэрпвае яе зместу. Творчасць Н. Саветнай — гэта плён яе натхнення, праца таленту — мастака, паэтэсы. У вершах найперш увасобіўся яе паэтычны дар успрымання жыцця і сябе ў ім. Не выключана, аднак, і такое, што праца ўрача і паэзія могуць прыйсці ў супярэчнасць, варожасць паміж сабой. Але гэта ўсяго толькі мае дапушчэнні, няхай з Н. Саветнай такое не здараецца. Спрычынімся, аднак, да яе паэзіі:

*Дубы и сосны в три обхвата*
*С обрыва к тучной осоке*
*Устало опустили лапы —*
*Змеились корни на песке…*

*Туманом утренним объята,*
*Бегу босая, налегке,*
*По ним, корявым, как по трапу,*
*К моей таинственной реке.*

*Сюда, средь вековых деревьев*
*Путь отыскав, лучится свет.*
*За ним ныряю, сбросив тени*
*И росный оставляя след.*

*Вдоль берегов крутых, суровых*
*Плыву, плыву — в сиянье дня!*
*И смотрит счастия подковой*
*Младенец-месяц на меня.*

Не ведаю, як вам, а мне гэты верш падабаецца, ёсць у ім, па вялікім рахунку, і вера, і надзея, так патрэбныя чалавеку, і нават эротыка, патрэбная таксама. Творчаму розуму, намаганням паэтэсы ўдаецца пераадольваць непасрэдную дадзенасць псіхатэрапеўтычнага досведу, пераконваць сябе і нас, пацыентаў і чытачоў, што свет у сваёй аснове гарманічны і ўраўнаважаны. Гэта, вядома, няпроста. Задачы сучаснай паэзіі не спрасціліся, а ўскладніліся. Сёння ад паэта патрабуецца вострае адчуванне рэальнай праблематыкі сучаснага жыцця ў багацці яго новых асаблівасцей і прыкмет, уменне адлюстраваць іх у сваім ракурсе бачання, — словам, быць на ўзроўні з векам, яго патрабаваннямі. Н. Саветнай дапамагаюць і талент, і жыццёвы досвед; адно і другое знаходзяць водгук у творчасці, не абмяжоўваючы не ідэальным зместам, у вершы шырока пранікае, уліваецца проза жыцця. Менавіта жыццёвы досвед падказаў ёй такія паўнацэнныя кранальныя вершы, як «Горе», «Ты вышел из купе…», «Цветок на морозе», «Памяти отца», «У меня нет деревни», «Закачалось небо»… Гэтыя і іншыя творы даюць падставы меркаваць, што паэтэса любіць жыццё, не дае сабе палёгкі, шмат працуе, захапляецца, у яе шырокае кола інтарэсаў і клопатаў, паэтычных і непаэтычных. Што здзівіла, дык гэта тое, што я не знайшоў вершаў пра каханне. Такія вершы ў яе напэўна ёсць, але чаму не ўключыла іх у кнігу?

> *Урач і паэтэса. Такое спалучэнне вядома літаратуры здаўна, дастаткова ўспомніць лекарку-пісьменніцу Саламею Пільштынову-Русецкую... Шмат дапамагала людзям па медыцынскай частцы ахвярная Цётка — Алаіза Пашкевіч.*

> *Задачы сучаснай паэзіі не спрасціліся, а ўскладніліся. Сёння ад паэта патрабуецца вострае адчуванне жыцця ў багацці яго новых асаблівасцей і прыкмет, уменне адлюстраваць іх у сваім ракурсе бачання, — словам, быць на ўзроўні з векам.*

Паэтэса нераўнадушная, неабыякавая. Вось, напрыклад, не то жанравая, не то нават бытавая карціна ў яе асвятленні, поўным жывапіснай маляўнічасці і шматстайнай, непаўторнай вобразнасці:

*Вокруг обломков*
*развалившейся избы,*
*Как будто у могилы*
*верный пёс,*
*Который в горе о себе забыл,*
*Печальный сад смиренно*
*службу нёс.*
*Деревья сгорбились*
*под тяжестью плодов,*
*А ветви надломились, застонав,*
*И, словно горький плач,*
*их вдовий зов*
*Катился спелым яблоком*
*меж трав.*

Метафара па-грэчаску азначае перанос, параўнанне. Спачатку параўнанне закінутага саду з сабакам паказалася мне залішне смелым, штучным, але толькі спачатку. А потым я падумаў, што яно вельмі праўдзівае, глыбокае і дакладнае!

У паэтычным мысленні і светаўспрыманні Н. Саветная абапіраецца на досвед класікі, а таксама народную мудрасць, фальклор. Паэт-лекар, псіхолаг не можа не быць мудрацом, што ў поўнай меры адносіцца і да аўтара кнігі «Убачыць вецер». Паглядзіце, як глыбока яна напісала:

*Не случается так, не бывает —*
*С дубом рядом берёзке*
*не вырасти:*
*У корней его хлебного пая*
*Тщетно будет просить,*
*словно милости.*

*Станет, бедная,*
*мучиться жаждой,*
*Побледнеют листочки*
*холодные,*
*И завянет, засохнет*
*однажды —*
*Нелюбимая, неугодная…*

Я не пытаў у аўтара, што паслужыла матэрыялам для гэтага верша, — аснова яго універсальная.

Мішэль Мантэнь лічыў, што «адметная прыкмета мудрасці — гэта абавязкова радаснае ўспрыманне жыцця». Да такога ўспрымання імкнецца Н. Саветная — і як урач, і як паэтэса. Ёсць такое паняцце: павага да жыцця. Гэта характэрна і для яе; вершы і проза сведчаць, што аўтарка ўмее і не стамілася ўспрымаць прыгажосць жыцця, дзівіцца яго заўсёднай навізне, хвалявацца, радавацца, трывожыцца і сумаваць, знаходзячыся ў пастаянных сувязях з яго шматстайнай штодзённасцю.

Старая ісціна: вершы — адбітак перажыванняў паэта. Вось верш «Цветок на морозе»:

*Безжалостно выброшен*
*с корнем*
*Герани цветок на мороз…*
*Один на один*
*с долей-горем*
*Смиренно он тяготы нёс:*

*То сохнуть оставит хозяйка,*
*То поит водой ледяной, —*
*А он, будь хоть жарко,*
*хоть зябко,*
*Сияет румяной звездой…*

*Не признан цветок*
*и отвергнут,*
*Но, брошенный в снег умирать,*
*Алеет так жертвенно-верно:*
*Вдруг выйдет*
*хозяйка забрать?!*

Прыгажосць — безабаронная, і абавязак чалавека не даваць яе ў крыўду. «Без красоты душа не может петь!» — усклікае паэтэса ў іншым вершы, не забываючы даўнюю думку пра тое, што прыгажосць выратуе свет. Сум па прыгажосці — дамінанта яе стылю.

> *Мішэль Мантэнь лічыў, што «адметная прыкмета мудрасці — гэта абавязкова радаснае ўспрыманне жыцця». Да такога ўспрымання імкнецца Н. Саветная — і як урач, і як паэтэса.*

Жыццё — паняцце ўсёабдымнае, шматколернае, рознамаштабнае. На жаль, яно пакутуе ў нас ад розных хвароб, у тым ліку і ад маральных захворванняў, і паэтэса хоча яго вылечыць, аздаравіць. Гэтай задачы падпарадкаваны яе эстэтыка і паэтыка, выяўленчыя сродкі, светапогляд. Застаючыся свецкай, яе паэзія мае адначасова прыкметныя рысы і пафас паэзіі рэлігійнай, адзначанай зваротам да Усявышняга і малітоўнасцю. Аўтар мае, як з іншай нагоды казаў апостал Павел, Бога ў розуме. Гэта дапамагае ў творчых пошуках, а таксама ў практычных справах. Да жанру малітвы звярталіся многія паэты, асабліва плённа гэта атрымлівалася ў Лермантава, 200-годдзе ад нараджэння якога шырока адзначаецца сёлета. Н. Саветная падтрымлівае гэтую лінію ў паэзіі.

*Удостой меня, Боже,*
*чтобы я утешала,*
*И прощать боль обид*
*Ты меня научи,*
*Напои состраданьем, дай*
*любовь мне и жалость,*
*Укрепи, чтоб помочь*
*заплутавшим в ночи…*

Чаго мы чакаем ад псіхатэрапеўта (на Захадзе такога спецыяліста мае кожная сям'я)? На маю думку, перш за ўсё, каб ён дапамог нам зразумець, спазнаць саміх сябе. Мы ідзём ад навукі да рэлігіі і наадварот, ад рэлігіі да навукі, да рэлігійнага разумення чалавека як носьбіта дабра і зла. Гэткі шлях і ўрача, асабліва псіхатэрапеўта. Такой у сваіх душэўных паваротах бачыцца мне гераіня верша «Я взглядом прорастаю в небо»:

*Я в небо прорастаю взглядом,*
*О, сколько глаз со мною рядом!*
*В них слёзы, блеск немой*
*надежды:*
*Там Свет! Там белые одежды!*

Які паэт — такія і яго вершы. Кніга «Убачыць вецер» сведчыць пра рэлігійнасць аўтара, яе веру і надзею на Бога. Бог — крыніца дабра, ён стаіць над людзьмі і так ці інакш вызначае іх жыццё. Паэтэса час ад часу ўступае з ім у дыялог. Бог маўчыць, але ўсё чуе. Да малітоўнасці яна звяртаецца ў надзеі паставіць на правільны шлях, на шлях бязгрэшнасці, сучаснае дэсакралізаванае грамадства. У кнізе нямала біблейскіх матываў, ёсць вершы пра хрысціянскія традыцыі ды святы («Рождество», «Вербное» і інш.). Паэтэса шукае прысутнасць субстанцыянальнага зместу, хоча адчуць містычнае «святло ніадкуль» (можа, таму яна і не ўключыла вершы пра каханне — «грэшную любоў»?). Субстанцыянальнае, трансцэндэнтнае адкрываецца ёй у прыродзе, яе прыгажосці ва невычэрпнасці. Звычайна спакойнае, ненапружанае маўленне яе становіцца раптам усхваляваным.

*Тихо-тихо туман опустился*
*на водную гладь,*
*Зацепил небеса и смешал*
*их с рекою,*
*Он дыханье земли растворил,*
*подмешал благодать*
*Восходящего солнца*
*с нежнейшей зарёю.*

*Тихо-тихо коснулась*
*воды я горячей рукой,*
*И она отозвалась,*
*мне пальцы целуя,*
*Обнимала, ласкаясь, живой*
*молодильной волной,*
*И душа прошептала моя:*
*«Аллилуя!»*

Свет навакольнай прыроды ў паэтэсы надзвычай шырокі і назіранні бясконцыя. Прырода ў яе напоўнена чароўнай неразгаданасцю і веліччу. Сфера прыроднай прасторы для яе — праява сакральнага, якое павінна падтрымліваць духоўныя сілы чалавека, ахоўваць ад маркоты і душэўнай расслабленасці. Прырода паўстае ў сваёй дабрыні і міласэрнасці — як своеасаблівы тэрапеўт, які суцяшае і лечыць. А што датычыць «вятроў-ураганаў», дык яны толькі ўмацоўваюць паэтэсу ў яе прызванні.

> *У паэтычным мысленні і светаўспрыманні Н. Саветная абапіраецца на досвед класікі, а таксама народную мудрасць, фальклор.*

*Мне ветер затыкает рот,*
*Из-за угла толкает в спину,*
*А я иду, иду вперед,*
*Лбом упираясь в исполина.*

*Гудит пришелец-ураган,*
*Сугробы страхов наметая,*
*А я иду, я — на таран! —*
*В цветущие объятья мая.*

Апошняму радку, магчыма, шкодзіць некаторая напышлівасць, але агульнаму стылёваму кантэксту ён не пярэчыць.

Асобны раздзел у кнізе складае проза: афарыстычныя фразы, дасціпныя нататкі, кароткія навелы, у сваім лаканізме блізкія да вершаў. Як і ў вершах, Н. Саветная пазбягае рыторыкі, звяртаецца да слова прамога і недвухсэнсоўнага. Вось кароткая нататка пад назвай «Страсти»: «Человеческие страсти: ненависть, зависть, ревность, жадность… как злокачественная опухоль: разрушают тех, в ком живут».

Паэтэса — рускамоўная, але часам пракідаецца беларуская лексіка і выразы: «Запанела трава на грядках»; «Но вижу постати седых волхвов…».

Н. Саветная — урач і паэтэса — тып сучаснага гуманіста, пазбаўленага (гэта відаць у вершах) інстынкту агрэсіі. Найбольшае, што яна можа сабе дазволіць, — гэта просьба, спроба пераканаць і палагодзіць. Творчы патэнцыял паэтэсы значны, яна яшчэ не ўсё сказала, што хацела, не сказала, магчыма, самага важнага, самага цікавага. Так што будзем чакаць.

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

Аблічча

# Самотная аблачына з Рыгі

**25 верасня на 82-м годзе пайшоў з доўгага і багатага творчага жыцця латышскі паэт, перакладчык Язэпс Уладзіслававіч Османіс. Ён не мог рухацца, як раней, і кампенсаваў гэта новым відам творчасці — маляваннем. Год таму па тэлефоне ён пахваліўся сваёй чарговай мастацкай выстаўкай і ўзнадзеіў мяне, што запросіць на чарговую прэзентацыю.**

Ёсць што сказаць пра Язэпа Османіса і як пра аўтара добрага дзясятка паэтычных зборнікаў, сямі кніг для дзяцей. Ураджэнец латгальскага краю, ён не карыстаўся слоўнікамі пры перакладзе тэкстаў з польскай, беларускай, рускай і нават з украінскай моў. Выдавецтва «Юнацтва», дзе я калісьці працаваў, заключала творчыя дамовы з выдавецтвам «Спрыдытыс», якое ўзначальваў Язэпс, сын Уладзіслава.

У 1986-м у «Юнацтве» была выдадзена анталогія твораў для дзяцей латышскіх пісьменнікаў пад назвай «Песня Даўгавы». Мы былі ўкладальнікамі таго светлага тома. У 1997 годзе ў зборніку «Сустрэча роднасных сусветаў» я змясціў верш Язэпса «Дзве Рыгі». Цікавыя вобразы паэта цікава было і перастварацы: «Бантам аблачынку носіць // Хараходка Рыга». А ўжо «другая» Рыга ў Язэпса Османіса выглядала інакш: «Як іскрыначка на вейка, // Скок на бераг Рыга».

Цяпер у мяне на вейку не іскрынка, а рыжская слязінка. І ўспомніліся райнісаўскія дні паэзіі, начаванне ў Лімбажах. Вечарам у гасціну-весніцу Язэпс асцярожна ўнёс і абмыў вадзіцай вялізны букет ружаў, падараваны яму ўдзячнымі слухачамі. І радасна перапалічыў цяпер ужо абраселыя бутоны, быццам кожны з іх быў і яго вершам, і райнісаўскім творам — з кропелькамі-іскрынкамі любові да генія нацыі Райніса і да нястомніка, апантанага ўлюбёнца ў роднае слова Османіса-выступоўца.

Я быў удзячны яму, калі ўбачыў надрукаваным пераклад майго верша пра Райніса з эпіграфам ад самога класіка: «Сонца — першае, што помню. І апошнім будзе сонца». Хай жа праменьчыкі асенняга райнісаўскага сонца аблашчаць апошні прытулак нашага сабрыса: латгалы называюць сабрысам добрага суседа. Вось такога я і згадваў у вершы:

*А я табе служу, сусед.*
*Спаўняю доўг і запавет*
*каля стырна не прытаміцца,*
*Хачу прыбоем наталіцца,*
*ступіць у райнісаўскі след.*

Не згубіцца творчы след у латышскай літаратуры і земляка Яніса Плііекшана-Райніса — Язэпса Османіса.

**Сяргей ПАНІЗНІК**



*Райнісаўскія дні паэзіі праходзяць у горадзе Лімбажы. Паэт Язэпс Османіс на перапынку між выступленнямі. 13 верасня 1986 года.*



*Фота Сяргея Панізніка*

*Сустрэча ўдзельнікаў Райнісаўскіх дзён паэзіі ў Латвіі. Паэт і перакладчык Язэпс Османіс (другі справа) расказвае пра Яніса Райніса. Распытвае сябра госць з Бялграда Момчыла Джэркавіч (трэці справа). Рыга. Верасень 1986 года.*

# Ад роднае зямлі пачатак…

**Артыкулам пад такой назвай пачынаецца новая кніга доктара філалагічных навук Алеся Бельскага «Тут іх карані і вытокі», што ўбачыла свет дзякуючы рэдакцыі часопіса «Роднае слова». Кніга для А. Бельскага незвычайная.**




Алесь Іванавіч, як вядома, паспяхова выступае як крытык, літаратуразнавец, гісторык літаратуры. Да ўсяго з'яўляецца празаікам, які пад псеўданімам Алесь Ветах выдаў некалькі кніг прозы. А тут, як відаць з падзагалоўка, радзімазнаўства: «Вядомыя людзі з Капыльшчыны ў свеце».

Канечне, пра некаторых з іх тыя, хто цікавіцца радзімазнаўчай, краязнаўчай праблематыкай, ведалі і дагэтуль. Прынамсі, пра тое, што ў Капылі нарадзіўся класік яўрэйскай літаратуры Мендзеле Мойхер-Сфорым. З колішняга маёнтка Дарагавіца родам польская і беларуская пісьменніца, перакладчыца Зоф'я Манькоўская (Тшашчкоўская), якая выступала пад псеўданімам Адам М-скі. У маёнтку Рымя (Рым'я), цяпер тэрыторыя вёскі Дусаеўшчына, нарадзіўся і польскі паэт, літаратуразнаўца, перакладчык Леанард Падгорскі-Аколаў. З вёскі Вошкаты пачалася жыццёвая дарога жывапісца, заслужанага мастака РСФСР Пятра Розіна.

На жаль, пра іх звестак было недастаткова. Пра іншых, як напрыклад, пра вучонага географа і палярніка Ісака Далгіна, сведчанне абмяжоўвалася толькі радкамі: «Доктар геаграфічных навук, прафесар Ленінградскага арктычнага інстытута АН СССР. Нарадзіўся ў 1910 годзе ў вёсцы Цімкавічы».

І гэта не адзінкавы прыклад. Не кажучы ўжо пра тое, што ў даведніках — энцыклапедыі не выключэнне — не напаткаеш звестак пра пасляваенных ураджэнцаў Капыльскага раёна, якія праславіліся па-за межамі Беларусі.

Гэты прабел і ўзяўся ліквідаваць А. Бельскі. Усяго ў ягонай кнізе прадстаўлены звесткі пра 32-х вядомых у свеце людзей Капыльшчыны. Можна напаткаць тут знаёмыя імёны, найперш тыя, пра якія згадвалася вышэй. Але ў асноўным даследчык выступае ў ролі першапраходцы.

Сваю кнігу Алесь Бельскі невыпадкова прысвяціў «светлай памяці брата Анатоля — гісторыка, краязнаўца, педагога». Анатоль Бельскі, які рана пайшоў з жыцця, па сутнасці, і далучыў меншага брата да капыльскага радзімазнаўства. Працуючы дырэктарам Руднянскай базавай школы, Анатоль Бельскі «пачаў сур'ёзна вывучаць гісторыю свайго роду, збіраць радаводныя звесткі». Не без ягонай дапамогі высветлілася, што іх прадзед «Сільвестр Бельскі вучыўся ў Віленскім універсітэце на літаратурным факультэце ў адзін час з Адамам Міцкевічам, Ігнатам Дамейкам, Янам Сабалеўскім і іншымі славутымі філаматамі і філарэтамі». Анатоль Бельскі зацікавіўся лёсам і спадчынай бацькавага брата — прафесара педагогікі Фамы Бельскага, які, дарэчы, стаў адным з герояў кнігі «Тут іх карані і вытокі».

У названай кнізе што ні старонка — адкрыццё. У прыватнасці, да А. Бельскага ніхто і не ведаў, што капыльская зямля апроч Герояў Сацыялістычнай Працы, пра якіх пісалася неаднойчы, дала яшчэ аднаго — Аляксандра Нахмановіча, які нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Пузава (цяпер Пукава), памёр у 1996-м. Сваё жыццё ён звязаў з Казахстанам. Тройчы абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Казахскай ССР, быў дэлегатам двух з'ездаў КПСС і двух Усесаюзных з'ездаў калгаснікаў.

Адкрыцці пачынаюцца з першага раздзела «Імёны і асобы», у які ўвайшлі артыкулы-персаналіі. З Цімкавіч (а гэта малая радзіма і самога А. Бельскага) родам доктар тэхнічных навук, лаўрэат Ленінскай прэміі Рыгор Айзенберг, які зрабіў вялікі ўклад у развіццё тэорыі і тэхнікі антэнных прылад. Падрыхтаваў 50 дактароў і кандыдатаў навук. У Цімкавічах нарадзіўся і оперны спявак Фёдар Андруковіч. Расійскі вучоны-фізіёлаг і рэаніматолаг, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Навум Гурвіч — яшчэ адзін знакаміты цімкавец. З Цімкавіч бярэ пачатак жыццёвая сцяжына Героя Савецкага Саюза Уладзіміра Наржымскага, а таксама прамыслоўца, вучонага ў галіне эканомікі, грамадскага і палітычнага дзеяча Вілора Ордзіна; таксама — кампазітара, дырыжора, музыканта, педагога, аднаго з пачынальнікаў прафесійнай яўрэйскай музыкі Яфрэма Шкляра. Кожнаму з іх можна прысвяціць і асобную кнігу.

Алесь Бельскі сабраў звесткі пра польскую пісьменніцу Міхаліну Даманскую (Фядзюшка), якая родам з колішняга маёнтка Чыжэвічы; пра капылянін а Алеся Дземідовіча — татарскага і беларускага агранома-селекцыянера, доктара сельскагаспадарчых навук. Між іншым, у маладосці ён пісаў вершы, друкаваў іх у газеце «Дзянніца», уваходзіў у Аршанскую філію «Маладняка». А хіба не цікава даведацца, што ў вёсцы Вуглы нарадзілася яўрэйская пісьменніца з Канады Эйда Мазэ, у якой, між іншым, ёсць і аўтабіяграфічная кніга «Дзіна», дзе распавядаецца пра гады дзяцінства пісьменніка на Капыльшчыне.

Такім чынам, А. Бельскі апрацаваў на ніве радзімазнаўства ладную дзялянку. Праўда, сам аўтар да сваёй працы ставіцца стрымана: «Рэальна ацэньваю зробленае: гэтая кніжка — маленькі, сціплы дадатак да вялікай радзімазнаўчай кнігі, над стварэннем якой пачалі ў свой час працаваць Б. Багдановіч, П. Сямёнаў, А. Марціновіч, В. Семянкевіч, Ф. Абрамчык, І. Ігнатчык, В. Шуракова і іншыя краязнаўцы». Істотна і такое сведчанне Алеся Бельскага: «Аднак працяг абавязкова будзе! Планую падрыхтаваць выданне біяграфій вядомых землякоў, якія жывуць і працуюць тут, на беларускай зямлі».

**Віктар ЦОДЗІК**

*Унікальны праект*

# Ідэі, пачутыя праз стагоддзі

Старажытныя мысляры і мастакі лічылі, што ідэальная кніга павінна сама прасіцца ў рукі чытачу, выклікаць жаданне мець асобнік у сваім хатнім кнігазборы. Думаецца, выданне, прадстаўленае ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, — якраз з кагорты набліжаных да ідэальных. Гэта альбом-каталог «Кніжная спадчына Беларусі», які пабачыў свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Яго выпуск стаў магчымы дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі краіны.

Альбом-каталог «Кніжная спадчына Беларусі» — не першы сумесны праект выдавецтва і Нацыянальнай бібліятэкі. Адметна, што выданне пабачыла свет напрыканцы жніўня, напярэдадні святкавання Дня беларускага пісьменства. Падчас прэзентацыі кнігі дырэктар НББ, доктар педагагічных навук Раман Матульскі зазначыў:

— Прэзентацыі вынікаў працы выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі» сталі для бібліятэкі амаль звыклай справай. Наша асноўная задача — прапаганда ў першую чаргу беларускай кнігі, арыентацыя на лепшыя творы. Мы памятаем выданне «Полацк. 1150», альбом партрэтаў Радзівілаў, альбом малюнкаў Дзмітрыя Струкава, наноў выдадзены «Баркалабаўскі летапіс». Праекты, якія рэалізуюцца «БелЭн», — вельмі патрэбныя і запатрабаваныя кнігі на розныя тэмы, здольныя адказаць на мноства актуальных пытанняў. Калі ж вярнуцца да новага праекта, то, па сутнасці, мы маем каталог — вынік навуковага даследавання, ён выкананы ў не зусім папулярным стылі, але па змесце — сапраўдная скарбонка. Тут сабрана наша кніжная і духоўная спадчына. Цягам кожнага стагоддзя, дзесяцігоддзя нашы продкі штосьці стваралі ў галіне кнігі, і самыя лепшыя з іх адкрыццяў можна знайсці на старонках новага выдання.



Фота Кастуся Дробава

*Складальнік выдання Алесь Суша прадстаўляе праект «Кніжная спадчына Беларусі».*

Як заўважыў Раман Сцяпанавіч, грунтоўны альбом аб'ёмам больш як 400 старонак, які змяшчае мноства ілюстрацый, паказвае толькі малую частку нашай спадчыны. У кнізе прадстаўленыя толькі самыя значныя асобнікі з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі краіны, аднак гэтая ўстанова — не адзіная ў Беларусі захавальніца кніжных скарбаў. Варта таксама ўлічваць, што значная частка нашай спадчыны знаходзіцца за мяжой. Мара выдаўцоў і аўтараў праекта — падрыхтаваць працяг альбома і як мага шырэй распавесці пра гісторыю кнігі нашага народа. Так, ёсць задумка падчас наступнага пасяджэння Апякунскага савета бібліятэкі, куды ўваходзяць прадстаўнікі бізнесу, мецэнаты, падарыць выданне «Кніжная спадчына Беларусі» кожнаму яго сябру. Каб дома, разам з сям'ёй, яны маглі выбраць хаця б адну кнігу, якая ў будучыні можа пабачыць свет у выглядзе факсімільнага перавыдання.

Пра адметнасці выдавецкай падрыхтоўкі і распаўсюджвання праекта распавяла падчас імпрэзы галоўны рэдактар выдавецтва «БелЭн імя П. Броўкі», кандыдат гістарычных навук Ларыса Языковіч:

— Можна сцвярджаць, што гэтая кніга амаль адразу пасля выхаду стала рарытэтам. Тыраж выдання — тысяча асобнікаў, і 800 з іх набыло Міністэрства інфармацыі краіны. Кнігі як сацыяльна значныя выданні будуць распаўсюджвацца па бібліятэках, аддзелах культуры райвыканкамаў, розных прадпрыемствах — кніжныя скарбы Беларусі павінны стаць вядомымі шырокаму чытачу. Атрымалася грунтоўнае, прадстаўнічае выданне на трох мовах — беларускай, рускай і англійскай. Фотамастак Анатоль Дрыбас выдатна папрацаваў над стварэннем здымкаў рэдкіх кніг. Аўтары перакладу на англійскую мову — перакладчыкі з Міністэрства замежных спраў краіны, якія працуюць падчас сустрэч кіраўнікоў дзяржаў і высокіх замежных гасцей. Навуковымі рэдактарамі кнігі сталі Ганна Малей і Валянціна Чудакова.

Складальнік кнігі, намеснік дырэктара па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці НББ, кандыдат культуралогіі Алесь Суша заўважыў:

— Калі працаваў над дыпломнай работай, а перад тым і над курсавымі, маючы пэўныя спадзяванні на напісанне дысертацыі, я даследаваў культурную спадчыну, аналізаваў манаграфіі, звязаныя з яе рознымі сферамі — музычнай, архітэктурнай, скульптурнай. Беларускія даследчыкі кожнаму з відаў мастацтва прысвяцілі досыць шмат увагі, але для сябе асабіста я зазначыў, што найгорш ведаю менавіта спадчыну кніжную. Не хапала добра ілюстраваных, якасна падрыхтаваных выданняў, прысвечаных беларускай кнізе. Гэтая тэма раней была заўважная ў лепшым выпадку праз навуковыя артыкулы, каталогі, але комплексных выданняў не было. Ды і сярод спецыялістаў існавала меркаванне, што даследаваць нашы старажытныя кнігі трэба найперш за мяжой, бо ў нас нічога не засталося. І вельмі радасна, што за апошняе дзесяцігоддзе мы фактычна здзейснілі прарыў у галіне вывучэння, вяртання кніг у навуковы і грамадскі ўжытак. Цягам гэтага часу выйшлі шматлікія факсімільныя выданні, каталогі, навуковыя даследаванні.

Падрыхтоўка выдання «Кніжная спадчына Беларусі» вялася цягам некалькіх гадоў, а для рэалізацыі задумкі была сфарміравана каманда прафесіяналаў. Гэта даследчыкі Таццяна Рошчына і Галіна Кірэева, якія стаялі ля вытокаў канцэпцыі альбома, спецыялісты НДА кнігазнаўства НББ. Дызайнер Уладзімір Шолк, аўтар мастацкага рашэння кнігі, які назваў праект ці не самым складаным у яго жыцці: некалькі разоў змяняўся змест, карэкціравалася афармленне, а кожная з кніг, прадстаўленых у даследаванні, патрабавала асаблівага стаўлення мастака. Уладзімір Ісакавіч падкрэсліў, што вынік такой доўгай і стараннай працы сёння можна назваць выдатным прыкладам праекта, прысвечанага менавіта мастацтву кнігі. Па словах дызайнера, кожная яго старонка — чыйсьці твор мастацтва, работа мастака, які жыў стагоддзі таму, кожны з творцаў закладаў у старонкі пэўную ідэю і спадзяваўся, што наступныя пакаленні расчытаюць і зразумеюць яго пасланне.

За час падрыхтоўкі праекта было сабрана намнога больш звестак, чым змагло змясціцца пад адной вокладкай. Ёсць спадзяванне, што «Кніжная спадчына Беларусі» ператворыцца ў адмысловую серыю ці новыя звесткі стануць часткай наступных рэдакцый ужо існуючай кнігі. Аўтары маюць у задумцы паўнацэнна сабраць і прадставіць спадчыну, якая захоўваецца ў іншых бібліятэках і музеях Беларусі, а таксама звярнуць увагу на замежныя зборы, дзе ёсць і беларускія кнігі. Варта паспяшацца, бо да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання засталося ўжо менш як тры гады.

**Марына ВЕСЯЛУХА**



Фота Кастуся Дробава

*Мумітроль і Малая Мю падчас прэзентацыі парку «Краіна мумітроляў».*

# Да нас прыехаў… Мумітроль

Сёлета ўвесь свет адзначае 100-годдзе з дня нараджэння вядомай фінскай пісьменніцы і мастачкі, «мамы» сімпатычных мумітроляў Туве Янсан. З гэтай нагоды ў розных краінах праходзіць шмат імпрэз — выставак работ Туве Янсан, спектакляў паводле яе твораў, прэзентацый новых біяграфічных фільмаў. Нават на некаторых самалётах, што лятаюць з Хельсінкі ў Японію, з'явіліся выявы мумітроляў.

Беларусь таксама далучылася да святкавання. У госці завіталі насельнікі дзіцячага парку «Краіна мумітроляў» — сам Мумітроль і яго сяброўка Малая Мю. Казачныя героі сталі ўдзельнікамі прэзентацыі сваёй рэзідэнцыі на выстаўцы «Турбізнес», павесялілі дзяцей падчас некалькіх ранішнікаў і прысутнічалі на прадстаўленні беларускамоўнага перакладу кнігі «Небяспечнае лета» — ужо чацвёртага выдання з серыі пра мумітроляў.

Дзіцячы парк «Краіна мумітроляў» знаходзіцца на радзіме Туве Янсан у Фінляндыі, на востраве Кайла. Ён пачаў працаваць у 1993 годзе, а стваральнікі адпачатку імкнуліся як мага больш дакладна паказаць свет мумітроляў, створаны ў кнігах Туве Янсан.

Тут няма ні атракцыёнаў, ні адмысловых забаў для дзяцей. Гэта проста выдатнае месца, дзе жывуць мумітролі, дзе можна прабавіць час у сямейнай кампаніі, натуральна, разам з казачнымі героямі.

«Краіну мумітроляў» аднойчы наведвала і сама Туве Янсан. Як распавяла дырэктар парку Анн-Карын Кюскінен, пісьменніца прагулялася па востраве і сказала: «Усё дакладна так, як было ў маім уяўленні».

З самага пачатку працы парк быў не вельмі папулярны, але тым не менш кіраўніцтва не ператварыла яго ў камерцыйны праект, а працу па падтрымцы ідэй свету мумітроляў кіраўнікі яшчэ тады назвалі асноўнай. Тут клапоцяцца пра прыроду, паважаюць сям'ю. Мумітролі гасцінныя, цярплівыя, умеюць сябраваць. За лета (парк працуе толькі летам і ў лютым, прадстаўляючы праграму «Зімовая казка») у госці да мумітроляў прыязджае каля 200-250 тысяч гасцей са Скандынавіі, Расіі, Эстоніі, Японіі.

Парк абслугоўваюць каля 250 супрацоўнікаў, у асноўным маладыя. Тут ёсць і тэатр, дзе кожную гадзіну адбываюцца прадстаўленні. Можна наведаць домік Мумітроля, а таксама паглядзець, як жывуць іншыя персанажы казак.

Прадстаўляе парк і адмысловую паслугу — «Вяселле ў краіне мумітроляў». Адметна, што найчасцей тут жэняцца і выходзяць замуж жыхары Японіі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Філасофскае падарожжа

**Вечар памяці, прысвечаны прадстаўнікам сям'і Рэрыхаў, адбыўся 21 кастрычніка ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.**

Чатыры знамянальныя даты сышліся ў адну: 140-годдзе з дня нараджэння Мікалая Рэрыха, 135-годдзе з'яўлення на свет яго жонкі, Алены Рэрых, 110-годдзе малодшага і 112-годдзе старэйшага сыноў — Святаслава і Юрыя Рэрыхаў.

Адкрываючы мерапрыемства, прадстаўнік Міжнароднага савета рэрыхаўскіх арганізацый імя С. Рэрыха ў Беларусі Нэла Германава шчыра заўважыла: «Любоў і павага да вялікай сям'і, якія аб'яднялі людзей у зале, ствараюць атмасферу цяпла і добразычлівасці, тую самую, якая заўсёды панавала ў доме Рэрыхаў... Рэрыхі валодалі найбагацейшымі сінтэтычнымі ведамі ў розных галінах культуры і навукі. Нездарма іх сучаснікі казалі, што па навуковым патэнцыяле сям'я роўная цэламу ўніверсітэту».

Мікалай Рэрых быў выдатным мастаком і філосафам, грамадскім дзеячам і археолагам. Ён не абмяжоўваў культуру помнікамі мастацтва, літаратуры альбо музыкі. Казаў, што культура — гэта шанаванне святла, любоў да чалавека, душа, сінтэз жыцця і прыгажосці, усё добрае, што нас акружае. Паводле яго, эвалюцыя чалавецтва наўпрост залежыць ад культуры. М. Рэрых ініцыраваў стварэнне т. зв. Пакта Рэрыха — міжнароднага прававога дакумента аб ахове культурнай спадчыны.

У 1903 годзе Рэрыхі здзейснілі першую вялікую паездку па старажытных гарадах, наведаўшы і Гродна. Сям'я захаплялася старадаўняй беларускай архітэктурай, у тым ліку Каложскай царквой XII стагоддзя, турбавалася пра яе рэстаўрацыю. Вынікам падарожжа стала стварэнне Мікалаем Рэрыхам цэлай серыі эцюдаў, сярод якіх — «Старажытная царква каля Гродна». Цікава, што навуковец тады заўважыў агульнае ў славянскай і ўсходняй культурах і ўсур'ёз зацікавіўся Індыяй.

Цэнтральна-Азіяцкая экспедыцыя, якая пачалася ў 1924 годзе, стала адным з найважнейшых этапаў у жыцці сям'і Рэрыхаў. Мікалай разам з жонкай і сынамі адолелі велізарны маршрут па старажытных індыйскай зямлі, перайшлі Заходнія Гімалаі, Кітайскі Сінцзян, Алтай і Манголію, вялікую пустыню Гобі і Тыбецкае сугор'е. Рэрыхі сабралі найкаштоўнейшы навуковы матэрыял па археалогіі, этнаграфіі, геаграфіі, батаніцы і фальклоры.

Маршрут экспедыцыі захаваўся на карцінах Мікалая Рэрыха. Па вяртанні сям'я Рэрыхаў заснавала Інстытут Гімалайскіх даследаванняў «Урусваці» у даліне Кулу ў Індыі, дзе кожны сур'ёзна заняўся даследаваннямі атрыманых падчас падарожжа дадзеных, сінтэзуючы навуку і духоўнасць.

Святаслаў Рэрых, малодшы сын Мікалая і Алены, як і бацька, стаў сусветна вядомым мастаком, выбітным партрэтыстам XX стагоддзя, літаратарам, філосафам, грамадскім дзеячам. У Інстытуце Гімалайскіх даследаванняў «Урусваці» ён узначальваў біяхімічную лабараторыю, займаўся пошукам лекаў ад раку. Юрый Рэрых — унікальны ўсходазнавец, лінгвіст, гісторык і этнограф. Ён валодаў трыццаццю мовамі і з апантанасцю вывучаў культуру многіх краін.

Алена Рэрых, «спадарожніца і натхняльніца» свайго мужа і дзяцей, была моцнай і бясстрашнай жанчынай. Свецкая паненка, спадчынніца старажытнага дваранскага роду, яна пешшу прайшла па пустынях, гарах і балотах, бясстрашна скакала на конях, трывала спякоту і холад, ва ўсім падтрымліваючы мужа. Алена Рэрых займалася актыўнай даследчай працай, дзякуючы ёй была створана не адна серыя кніг, у тым ліку «Жывая Этыка» — новая філасофская сістэма пазнання свету.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Індыі ў Беларусі Манодж Кумар Бхарці звярнуў увагу на тое, чаму Мікалай Рэрых большую частку свайго жыцця звязаў менавіта з гэтай краінай: «Кожны, хто сутыкаўся з Індыяй, не можа не заўважыць містыцызм у яе культуры, асабліва ў філасофіі. Існуюць універсальныя пытанні светабудовы, якія цікавяць усіх: адкуль узнік Сусвет, чаму на Зямлі існуе жыццё, што становіцца з душамі, калі мы паміраем, дзе мы былі раней, да нараджэння. У індыйскай філасофіі можна знайсці адказы на ўсе гэтыя пытанні».

Імпрэза была падрыхтавана Таварыствам «Беларусь-Індыя» і Міжнародным Саветам рэрыхаўскіх арганізацый імя С. Рэрыха ў Беларусі пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Індыя ў Рэспубліцы Беларусь. Падчас вечара можна было ўбачыць рэпрадукцыі карцін Мікалая ды Святаслава Рэрыхаў і паслухаць класічную фартэпіянную музыку.

**Марыя ВОЙЦІК**



# Мазуркі ды імправізацыі

Выбітны польскі джазавы піяніст Артур Дуткевіч прыехаў у Беларусь з дзвюма цікавымі праграмамі, якія прадставіў на розных сцэнічных пляцоўках краіны.

Прэзентацыя альбома «Prana» адбылася на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі, дзе джазмен выступіў з музыкамі, якія ўдзельнічалі ў запісе: кантрабасістам Міхалам Бараньскім і барабаншчыкам Лукашам Жытам. Тытульная кампазіцыя «Prana» ў перакладзе з санскрыту — «сіла», «энергія жыцця», якая выяўляецца праз энтузіязм, радасць і творчасць. Творы Артура Дуткевіча — славянскі лірызм («Польская мазурка»), рытм і імправізацыйная ідыёма сучаснага джаза («Prana»), а таксама спакой і медытатыўнасць («Om Namo Bagawate»). Кампазіцыя «Дзядзька Томэк» прысвечана памяці легендарнага саксафаніста Томаша Шукальскага, з якім піяніст выступаў на працягу многіх гадоў. Прэм'ера альбома адбылася ў снежні 2013 года на фестывалі *Jazz Juniors Festival* у Кракаве. Канцэрт быў з захапленнем успрыняты слухачамі і названы самай цікавай падзеяй фэсту.

Праграму альбома «Немэн-імправізацыі» Артур Дуткевіч прэзентаваў у Мінску ў 2011 годзе і яшчэ тады марыў выступіць з ёй на радзіме Чэслава Немэна. Нарэшце сёлета мара спраўдзілася: на сцэне Васілішкаўскага Цэнтра культуры і вольнага часу Трыа Артура Дуткевіча прадставіла праграму джазавых імправізацый на творы легендарнага музыканта. Творчасць Чэслава Немэна натхняе Артура Дуткевіча здаўна. У 2009 годзе быў запісаны альбом пад назвай «Немэн — Імправізацыі». Гэтая музыка — універсальная. Яе з поспехам можна выконваць джазавым трыа, нават на раялі альбо кантрабасе.

Артур Дуткевіч — адзін з выдатных польскіх джазавых піяністаў. Фіналіст прэстыжнага конкурсу Тэлоніуса Монка ў Вашынгтоне. Як першы польскі піяніст выканаў свой сольны канцэрт на Міжнароднай выстаўцы музычнай прадукцыі MIDEM у Канах. Выступаў з выдатнымі джазавымі і блюзавымі музыкантамі: Уршуляй Дудзяк, Гражынай Аўгусцік, Дэборай Браўн, Лорай Шафран, Мішэлем Хэндрыксам, Карласам Джонсанам, Тадэвушам Налепам, Збігневам Намыслоўскім, Янам Пташыным-Урублеўскім, Ёргасам Скалясам, Дарэкам Аляшкевічам. Зрабіў шмат запісаў для польскага радыё і тэлебачання. У канцэртных залах Еўропы мае шэсць аўтарскіх альбомаў: «Блакітная сцежка», «Lady Walking», «Hendrix Piano», «Немэн — Імправізацыі», «Мазуркі», «Prana».

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

# Акадэмія песень

**1 лістапада — 75 гадоў Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэле Рэспублікі Беларусь імя Р. Шырмы. Створаная ў 1939 годзе ў Беластоку як Беларускі ансамбль песні і танца, яна і сёння дорыць слухачам свята вакальнага мастацтва.**

Першымі артыстамі калектыву былі выкладчыкі спеваў, якія працавалі і адначасова вучыліся ва ўніверсітэтах і духоўных семінарыях Варшавы і Вільні, а таксама моладзь з аматарскіх гурткоў. Да 1970 года ансамбль узначальваў дырыжор і фалькларыст Рыгор Шырма; танцавальнай групай кіраваў вядомы на той час балетмайстар і этнограф Іван Хворăст.

Першы канцэрт адбыўся 23 лютага 1940 года ў Доме Чырвонай Арміі г. Беластока. У праграму былі ўключаны беларускія народныя песні і танцы. У канцы 1940 года ансамбль выступаў у Мінску, а ў маі 1941-га — у Маскве, дзе слухачы ўпершыню пачулі ў іх выкананні беларускія песні «А ў полі вярба», «Ці нябыстрая рэчка», «Ой, у садочку цвіла лілея», «Ой, выйшла маці».

Вайна заспела ансамбль у Арле, пасля былі пераезды ў Сібір, Сярэднюю Азію. У цяжкія для СССР гады калектыў даў больш як 840 канцэртаў і пабываў прыкладна ў 580 гарадах і раённых цэнтрах. На пачатку 1944 года ансамбль вярнуўся ў Беларусь, каб сустрэць Перамогу ў Гродне.

У пасляваенны час папулярнасць калектыву ўзрасла. У 1950-м ансамбль быў рэарганізаваны ў Дзяржаўны хор БССР, праз два гады пераведзены ў Мінск. З 1 красавіка 1955 года ён стаў называцца Дзяржаўнай харавой капэлай БССР. За выдатныя творчыя дасягненні ў 1978-м капэле імя Р. Шырмы нададзена званне акадэмічнай.

У розныя гады калектыў узначальвалі У. Раговіч, А. Шунтаў. З 1987 года мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам стала Людміла Яфімава, пад кіраўніцтвам якой капэла дасягнула сапраўдных вышынь выканальніцкага майстэрства. У рэпертуары Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Беларусі рознастылёвая музыка айчынных і замежных класікаў, апрацоўкі беларускіх народных песень, арыгінальныя і папулярныя творы. Апошнім часам калектывам здзейснены наступныя цікавыя праекты: «Месія» Г. Гендэля і «Поры года» Ё. Гайдна ў Іспаніі, араторыя А. Янчанкі «Апакаліпсіс» у Італіі, канцэртнае выкананне оперы Дж. Вердзі «Травіята» ў Іспаніі. Шырокі рэпертуар і высокая выканальніцкая культура даюць магчымасць артыстам капэлы з поспехам канцэртаваць з вядомымі сімфанічнымі аркестрамі Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Германіі. Калектыў — удзельнік Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Беларуская музычная восень», Міжнароднага фестывалю музыкі «Мінская вясна», Цірольскага фестывалю (г. Эрль, Аўстрыя). Капэла стала ўладальнікам Гран-пры Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы (Польшча, 2004 г.).

**Кацярына ВАРАНЬКО, вядучы бібліёграф НББ**

# Выхоўваць зацікаўленага чытача з дзяцінства

**«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» — адно з вядучых дзяржаўных выдавецтваў нашай краіны. «ЛіМ» неаднойчы расказваў пра навінкі гэтага выдавецтва. Наш карэспандэнт сустрэўся з загадчыкам рэдакцыі дзіцячай літаратуры «БелЭн» Сяргеем Іванавічам Молчанам, каб даведацца пра заўважны ў рабоце энцыклапедыстаў кірунак у апошні час.**



Фота Наталлі Асмола

**— Дзіцячая літаратура... Наколькі гэты кірунак профільны для такога, здавалася б, спецыялізаванага выдавецтва?**

— Традыцыйна выдавецтва скіравана на выданне энцыклапедычнай, даведачнай літаратуры — літаратуры, прызначанай для навукова-даследчай працы, вучэбнай дзейнасці. Словам, чытацкая аўдыторыя нашых выданняў фарміруецца з асяродку дарослых людзей. Каб інтарэс да такіх выданняў не прападаў і яны былі запатрабаваныя ў будучыні, трэба рыхтаваць нераўнадушнага чытача. А ён, як вядома, з ніадкуль нівозьмецца. Калі згубіць час, не прывіць культуру чытання з дзяцінства, то дарослы чалавек будзе не падрыхтаваны да ўспрымання больш складанай літаратуры, вырваны з патрабавальнага культурна-інфармацыйнага асяродку. Каб пазітыўна ўплываць на сітуацыю, выдавецтва і звярнула ўвагу на выпуск твораў для дзіцячай і юнацкай аўдыторыі.

**— Што найбольш вас цікавіць у дзіцячым кнігавыданні: класічная літаратура, што вывучаецца ў школе, ці кнігі-навінкі?**

— Класічная літаратура прайшла выпрабаванне часам. Любому адукаванаму чалавеку яе проста неабходна вывучаць і ведаць, таму што класіка захоўвае ў сабе неацэнныя скарбы мудрасці і адкрыццяў. Але і кнігі-навінкі ўзбагачаюць дапытлівага чытача не меней. Мне падаецца, як творы класічныя, так і новыя ў аднолькавай ступені павінны быць у полі зроку сучаснага чытача. Таму і не хацеў бы аддаваць прыярытэты толькі аднаму з кірункаў… Абодва — і класіка, і сучасная літаратура — прадстаўляюць літаратуру ў цэлым.

**— Каго з аўтараў лічыце адкрыццём рэдакцыі?**

— Няпростае пытанне. Асобы, з якімі даводзіцца працаваць, — ужо адкрыццё. У творах кожнага ёсць нешта індывідуальнае, нейкая адметнасць, якая вызначае аўтара, адрозніває ад іншых. Каштоўнасць кожнага аўтара найперш у тым, што менавіта яго выбраў Бог, надзяліў талентам літаратара, здольнага ў нашым хуткаплынным часе спыніцца, услухацца і ўглядзецца ў навакольны свет, прапанаваць чытачу не толькі ўбачыць, прапусціць праз сябе перажыванні, трывогі і радасці, дабро, думкі, але і прымусіць задумацца пра галоўнае. Дапамагчы разгледзець незвычайнае, абудзіць пачуцці, якія ў гэты час дрэмлюць недзе ў цянётах душы, падзяліцца гэтым з навакольным светам. І ўсё ж… Мне пашчасціла садзейнічаць выхаду ў свет кніг такіх аўтараў, як Расціслаў Бензярук з Жабінкі, Віктар Кудлачоў, Ганна Скаржынская-Савіцкая, Людміла Кебіч з Гродна, Генадзь Аўласенка з Чэрвеня, Павел Саковіч, Мікола Маляўка, Людміла Рублеўская, Алесь Бадак… Кожны з іх варты асобнага расповеду.

**— У дзіцячым кнігавыданні «Беларуская Энцыклапедыя» часта звяртаецца да героіка-патрыятычнай літаратуры. Раскажыце крыху пра гэты кірунак…**

— Героіка-патрыятычная літаратура ва ўсе часы актуальная, таму што гістарычная памяць дыктуе чалавеку цікавасць да мінуўшчыны, да сваёй радзімы. Па ўздзеянні такая тэма кранае нават, здавалася б, знешне абыякавых людзей. У дадзенай тэматычнай прасторы выдавецтва рыхтуе і мастацкую літаратуру. Як прыклад — «Вялікія і славутыя людзі беларускай зямлі» У. Бутрамеева, «Восень пасярод вясны» Адама Мальдзіса. А ў 2012 годзе мы заснавалі серыю «Гісторыя для школьнікаў». Гэтыя выданні пашыраюць уяўленне старшакласнікаў пра гісторыю нашай Айчыны: больш грунтоўна раскрываюцца асобныя тэмы ці гістарычныя асобы, якім у падручніку з-за спецыфікі вучэбнай літаратуры адведзена не так і шмат месца. У згаданай серыі параўнальна нядаўна пабачылі свет кнігі «Непераможны «Вараг» Р. Паўловіча, «Дванаццаць подзвігаў у імя Айчыны» В. Бандарэнкі, «Чалавек-легенда Сяргей Прытыцкі» А. Герашчанкі і іншыя.

**— Кнігі, адрасаваныя дзецям, патрабуюць асаблівай увагі да мастацкага афармлення. Ці ўсё атрымліваецца ў гэтым плане? Каго б вылучылі са сталых мастакоў «Беларускай Энцыклапедыі» ў сферы дзіцячых кніг?**

— Чытач-дзіця, без сумнення, найбольш патрабавальны да афармлення. Спачатку ацэньваецца знешні бок кнігі (фармат, вокладка, яскравасць ці іншыя незвычайныя элементы, гама колераў, фарбаў, наяўнасць ілюстрацый і іх якасць, шрыфт і іншае). Калі гэты этап успрыняцця пройдзены паспяхова, то будзе вітацца і змест. Таму што пад уздзеяннем першаснага ўспрымання тэкст у эмацыянальна-вобразным уяўленні ажывае, надоўга застаецца ў памяці. Абуджае фантазію, падштурхоўвае да творчасці. Прызнаюся, не ўсё ў гэтым плане атрымліваецца. Трэба яшчэ шмат працаваць. Дазволю сабе некаторае адступленне. Звычайна мы вучым дзяцей чытаць тэкст… Ці не так? А вось чытаць ілюстрацыі ці вывучаць мову ілюстрацый па самых розных прычынах не атрымліваецца. Губляецца немалаважная частка чытацкай культуры. І толькі дзякуючы майстэрству некаторых сапраўдных мастакоў кнігі (а такіх не так ужо і шмат) гэты прабел запаўняецца. Сярод найбольш уважлівых у гэтым сэнсе я вылучыў бы кніжных графікаў Сяргея Волкава, Аксану Аракчэеву, Анатоля Александровіча, Анастасію Балыш, Рыту Цімохаву, Веру Астахновіч.

**— Пра выданне якой кнігі марыце асабіста?**

— Самай незвычайнай — падобнай на цуд, якую ў рэальнасці ўбачыць, разгледзець немагчыма. Гэта калі адыходзіць ад прамога адказу… Аднак мы жывём у перыяд імклівага развіцця навукова-тэхнічнага прагрэсу. І змагацца з ім альбо адмаўляць яго — дарэмная трата часу. Пройдзе некалькі гадоў, і нашае жыццё ў тэхнічным плане зменіцца кардынальна.

> *«Каштоўнасць кожнага аўтара найперш у тым, што менавіта яго выбраў Бог, надзяліў талентам літаратара, здольнага ў нашым хуткаплынным часе спыніцца, услухацца і ўглядзецца ў навакольны свет, прапанаваць чытачу не толькі ўбачыць, прапусціць праз сябе перажыванні, трывогі і радасці, дабро, думкі, але і прымусіць задумацца пра галоўнае.*

Сам час дыктуе нам, якой павінна быць кніга: электроннай, кніга, якая сама гаворыць; павінны быць кнігі-планшэты; патрэбны ўплывы галаграфіі з актыўным уздзеяннем на чытача… Хто ведае, што і як далей складзецца. Але ўсё ж мару пра кнігу ў пераплёце, хаця і ў сучасным выкананні, ды толькі з увагай да традыцый. Пра кнігу як сімвал вечнасці і традыцый. Мо там поруч з выдатнымі ілюстрацыямі будуць свабодныя старонкі для творчасці чытача? Кніга будучыні павінна развіваць фантазію, спрыяць творчаму асэнсаванню рэчаіснасці і разам з тым — пакідаць след у душы, садзейнічаць развіццю душэўных якасцей. Дапамагаць усталяванню шчырасці паміж людзьмі і народамі…

**— Сяргей Іванавіч, вы — дасведчаны педагог. Што ў першую чаргу, з пункту гледжання прафесіянала, цяпер патрэбна дзіцячаму кнігавыданню — аповесць для падлеткаў, вершы для дашкольнікаў ці нешта іншае?**

— Зносіны паміж людзьмі — вялікая раскоша. Чытанне — такія ж зносіны… Таму не варта абмяжоўваць іх чымсьці адным. Трэба, каб чытанне было шматпланавым, шматабсяжным. Хаця дарослыя і павінны ўплываць на выбар… Кожнаму дзіцяча-юнацкаму этапу патрэбна свая літаратура. Складанне такога пераліку твораў — каласальная тытанічная праца без права на памылку. Думаю, што гэтая работа ў нас толькі пачынаецца. Для зусім юных чытачоў важна гучанне слова, мовы, іх музычнасць у цэлым. Усё гэта можна ўявіць, знайсці ў песнях, вершах, казках… Калі ў дзіцяці фарміруецца мова, неабходна літаратура, якая садзейнічае разуменню слова, яго сэнсавых узаемасувязей. Гэта ўжо другі ўзровень літаратуры. І так для кожнага ўзросту. Але агульная мэта — абуджэнне думкі чытача, пераход на іншую ступень інтэлектуальнага і эстэтычнага развіцця, наданне імпульсу для душэўнага насычэння і (калі наспела неабходнасць) абнаўлення, палёту фантазіі і ўяўлення.

**— Як вы лічыце, ці дастаткова напісана пазнавальных кніг для дзяцей? Мо лепей перавыдаваць класічных аўтараў кшталту Перальмана і нічога новага не прыдумляць?**

— Якраз пазнавальных кніг не так ужо і шмат. Ды і крытэрый складаны. Уявім, што кніга прачытаная. Больш дзіця да яе не звяртаецца. Ці адкрыла штосьці-небудзь пры чытанні? Не зачапіла? Не прыйшоў яшчэ час спасцігнуць напісанае ці, наадварот, ужо прайшоў, таму было нецікава? Перакананы, пазнавальнасць кнігі тады нечага вартая, калі да яе звяртаюцца ў розным узросце. Спярша — зрокавы аспект. Пасля — тэкставае ўспрыняцце ў суправаджэнні з ілюстрацыйным. Далей — асэнсаванне на аснове дадатковага матэрыялу ў кнізе (назавём яго даведачным). Пасля — зварот на новым узроставым этапе. Каб падказаць кнігу дзецям, унукам... Так было, так ёсць. І не трэба выназходзіць нешта новае. Варта дадаць, што некалі сучасны нам твор можа стаць класікай, дапоўніўшы яе колькасны і якасны складнік. Гэтага жадаю і ўсім аўтарам.

Гутарыў Максім ЖАЛЕЗІНКА

Літаратура і мастацтва № 43 31 кастрычніка 2014 г.



# Таямніцы сівых курганоў



*Абрад пахавання ў кургане XI стагоддзя (рэканструкцыя Ю. Заяца паводле матэрыялаў Заслаўскага курганнага могільніка, мастак Б. Лалыка).*

Курганы — неад'емная частка беларускага краявіду. Паўсферычныя ці падоўжаныя насыпы, якія звычайна размяшчаюцца групамі па некалькі дзясяткаў ці нават соцень, можна ўбачыць, ідучы вузкай лясной сцежкай ці нават едучы па шашы, што пралягае праз лясны масіў. Усе чулі пра курганы, шмат хто іх бачыў, але далёка не ўсе ведаюць, чым жа насамрэч яны з'яўляюцца.

Увогуле, курган — гэта насып, зроблены над пахаваннем, іншымі словамі — старажытная магіла. Першыя курганы на тэрыторыі сучаснай Беларусі былі насыпаныя яшчэ на мяжы другога і трэцяга тысячагоддзяў да нашай эры. Іх узводзілі носьбіты так званай сярэднедняпроўскай археалагічнай культуры, якіх сучасныя даследчыкі лічаць індаеўрапейцамі.

Але шырокае распаўсюджанне курганны абрад пахавання набыў прыкладна ў сярэдзіне першага тысячагоддзя нашай эры. Тады нябожчыкаў у курганах хавалі і балты, і славяне, якія менавіта ў гэты час актыўна рассяляліся ў цэнтральнай і паўночнай Беларусі. Нашы продкі былі язычнікамі, яны пакланяліся розным бажаствам і сілам прыроды, найперш сонцу і агню, а таму спальвалі памерлых.

Прыкладна ў канцы X — пачатку XI ст. на большай частцы тэрыторыі Беларусі, заселенай славянскімі плямёнамі крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў, адбываецца змена пахавальнага абраду. У гэты час целы памерлых спальваць перастаюць. Новая традыцыя змяшчэння няспаленага цела нябожчыка атрымала назву інгумацыя. Археолагі да гэтага часу актыўна спрачаюцца, што паслужыла асноўнай прычынай такой змены. Адным з найбольш важных фактараў распаўсюджання новага пахавальнага абраду лічыцца прыняцце хрысціянства і паступовае яго пашырэнне на землях Старажытнай Русі. Але, напэўна, гэтая прычына была не адзінай, бо хрысціянская вера распаўсюджвалася на абшарах Усходняй Еўропы, заселеных славянамі, вельмі марудна, а пераход ад спалення целаў нябожчыкаў да інгумацыі адбыўся дастаткова хутка — прынамсі, на сучасных беларускіх землях.

Сёння курганы выглядаюць як простыя земляныя насыпы. Але першапачаткова гэта было зусім не так. Насамрэч кожны курган — гэта збудаванне, якое калісьці складалася не толькі з пяску.

Працэс узвядзення кургана звычайна пачынаўся з ачысткі пляцоўкі пад будучы насып. З гэтай мэтай пляцоўку выпальвалі, праз што ў падножжы кургана заставаўся тонкі слой попелу з дробнымі вугольчыкамі. Пасля пачыналіся ўласна рытуальныя дзеянні па здзяйсненні пахавання і ўзвядзенні над ім мемарыяльнага насыпу. У язычніцкія часы, калі нашы продкі спальвалі памерлых, пахавальны абрад адрозніваўся вялікай разнастайнасцю. Звычайна спаленне цела нябожчыка адбывалася па-за межамі кургана, у адмысловым месцы, а пасля рэшткі крэмацыі, пахавальнага інвентара (упрыгажэнняў памерлага і асобных прылад працы) і спаленых ахвярных жывёл пераносіліся на месца ўзвядзення кургана. Рэшткі крэмацыі маглі змяшчацца ў розных частках насыпу: у адмысловых ямках, выкапаных у падножжы; на самім падножжы; у насыпе — на спецыяльных пляцоўках ці ў ямках і нават на вяршыні кургану.

Адно з надзвычай нешматлікіх апісанняў славянскага пахавальнага абраду, якое змяшчаецца ў «Аповесці мінулых гадоў», сведчыць, што калі нехта паміраў, па ім спраўлялі трызну, пасля спальвалі нябожчыка, а косткі збіралі ў невялікую пасудзіну, якую змяшчалі на слупе пры дарозе. Археалагічныя даследаванні дазваляюць пацвердзіць звесткі летапісца. На тэрыторыі Беларусі, у прыватнасці, у Падзвінні, раскапаны цэлы шэраг курганоў, у якіх кальцынаваныя косткі знаходзіліся на самай паверхні насыпу. Аналіз пабудовы гэтых курганоў дазваляе меркаваць, што рэшткі трупаспалення не высыпаліся на паверхню гэтых курганоў, як меркавалі некаторыя даследчыкі раней, а змяшчаліся ў адмысловых драўляных канструкцыях на іх вяршыні. На падставе шэрагу аналогій можна ўявіць, што гэтыя канструкцыі выглядалі як невялічкія зрубы-дамкі, размешчаныя на слупах (ці не ад іх знешняга выгляду бяруць пачатак казкі пра хатку на курыных лапках?).

Многія курганы другой паловы першага тысячагоддзя нашай эры змяшчаюць рэшткі адразу некалькіх крэмацый. Часам колькасць людзей, пахаваных у адным насыпе, магла дасягаць дзесяці ці нават дваццаці. Гэтыя пахаванні, відавочна, адбываліся неадначасова, а на працягу пэўнага перыяду — верагодна, некалькіх дзесяцігоддзяў, а магчыма, і больш працяглага часу. Можна меркаваць, што такія курганы з'яўляюцца своеасаблівым склепам для прадстаўнікоў адной сям'і ці некалькіх родаў, якія жылі ў адной вёсцы.

Падобныя насыпы маюць складаную будову, як, напрыклад, курган, даследаваны археалагічнай экспедыцыяй пад кіраўніцтвам аўтара гэтых радкоў у 2010 годзе ў крывіцкім могільніку Опса Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці. Пасля таго, як на абранай для ўзвядзення насыпу пляцоўцы было распалена вогнішча, амаль у цэнтры пляцоўкі была выкапана яміна, куды змясцілі частку пахавання паводле абраду крэмацыі. Над пахаваннем былі пастаўленыя два гаршчкі. Наступным этапам узвядзення кургана стала стварэнне «валіка» з кавалкаў дзірвану па перыметры попельна-вугальнай праслойкі з мэтай умацавання схілаў будучага насыпу. Пасля гэтага быў узведзены курган, грунт для якога браўся з раўчукоў. Нарэшце, на вяршыні насыпу была ўсталяваная драўляная канструкцыя, кшталту «хаткі мёртвых», куды змясцілі другую частку костак. Мяркуючы па іх колькасці, у кургане было пахавана адразу некалькі чалавек разам з рэшткамі некалькіх ахвярных жывёл.

Курганы з пахаваннямі па абрадзе інгумацыі не адрозніваюцца такой разнастайнасцю абраду. Цела нябожчыка разам з інвентаром звычайна змяшчалася на падножжы пляцоўкі будучага кургана, у падкурганнай яміне-магіле, альбо, зрэдку, у самім насыпе. Але асобныя элементы пахавальнага абраду вельмі разнастайныя. Цела нябожчыка магло быць загорнута ў тканіну, бярэсту, змешчана ў драўляную калоду ці труну. Калі перад узвядзеннем кургана выкопвалася магіла, яе сценкі маглі ўмацоўвацца дрэвам і перакрывацца дошкамі.

Звычайна ў адным кургане знаходзіцца адно пахаванне па абрадзе інгумацыі, зрэдку — два, і толькі ў выключных выпадках у адным насыпе змяшчалі большую колькасць трупапакладанняў. Верагодна, гэтыя выпадкі былі звязаныя з нейкімі экстрэмальнымі ўмовамі — ваеннымі падзеямі ці пошасцямі, калі не было часу і магчымасцей узводзіць курган над кожным пахаваннем.

Часам археолагам даводзіцца даследаваць курганы, у якіх пахаванняў не было. Такія насыпы называюцца старажытнагрэчаскім словам «кенатаф». Кенатафы насыпаліся ў памяць пра людзей, памерлых на чужыне ці загінуўшых падчас вайсковай выправы, чые целы не маглі быць дастаўлены на радзіму, каб пахаваць іх на родавых могілках.

Падчас узвядзення кургана зямлю для яго насыпання звычайна бралі побач, у выніку чаго вакол насыпу ўтвараліся глыбокія раўчукі. Часам, пасля таго як курган ужо быў узведзены, у гэтых раўчуках маглі распальвацца рытуальныя вогнішчы. Схілы насыпаў умацоўвалі кавалкамі дзірвану, дошкамі ці плятнёвымі канструкцыямі, каб прадухіліць іх хуткае асоўванне. Таму першапачаткова курган, які цяпер выглядае адносна невялікім насыпам вышынёй, напрыклад, у метр, візуальна ўспрымаўся як значна вышэйшы, што павінна было ўражваць вандроўнікаў і нараджаць у іх павагу перад веліччу продкаў мясцовых жыхароў.

Кожны курган з'яўляецца ўнікальным помнікам нашай мінуўшчыны, даследаванне якога можа даць неацэнныя веды пра духоўную культуру і вераванні нашых продкаў, асаблівасці іх жыцця і побыту. На жаль, колькасць гэтых помнікаў імкліва і няўхільна змяншаецца. Курганы разбураюцца ў выніку сельскагаспадарчых работ, будаўніцтва дарог і гаспадарчых аб'ектаў. У апошнія дзесяцігоддзі найбольшую шкоду магілам нашых прашчураў наносяць так званыя «чорныя капальнікі», якія разбураюць курганы ў пошуках артэфактаў з мэтай іх далейшага продажу. Каб атрымаць незаконны прыбытак, гэтыя людзі знішчаюць гісторыка-культурную спадчыну краіны, руйнуюць падмуркі нацыянальнай свядомасці. Адэкватныя сродкі барацьбы з гэтымі злачынцамі беларуская дзяржава пакуль не знойдзеныя. Аднак шукаць іх трэба хутчэй, інакш курганоў — старажытных магіл нашых продкаў — на беларускай зямлі проста не застанецца.

**Мікалай ПЛАВІНСКІ**



*Будова кургана з пахаваннем паводле абраду інгумацыі ў падкурганнай яміне (паводле матэрыялаў раскопак на паўночным захадзе Расіі).*



*Будова кургана 20 могільніка Опса (рэканструкцыя аўтара).*

# Фотафантазіі

**Кастрычнік сёлета стаў першым Месяцам фатаграфіі ў Мінску. Лепшыя айчынныя фатографы, а таксама майстры з Расіі, Латвіі, Польшчы прывезлі ў сталіцу свае работы, правялі лекцыі і прэзентацыі кніг. Арганізатары спадзяюцца, што гэта падзея стане добрай культурнай традыцыяй і дапаможа сфарміраваць новы статус беларускай фатаграфіі як віду мастацтва.**



*Аляксандр Веледзімовіч. Без назвы.*

У праекце была занятая вялікая колькасць выставачных прастор: дзяржаўныя галерэі, прыватныя арт-пляцоўкі і іншыя. Для таго каб наведвальнікі маглі сарыентавацца ў мерапрыемствах «Месяца...», пры падтрымцы Інстытута Гётэ быў выпушчаны друкаваны каталог з фатаграфіямі, указаннем удзельнікаў, адрасоў і іншай карыснай інфармацыяй.

## КРАІНЫ-СУСЕДЗІ

Сапраўднай падзеяй стаў прыезд у Беларусь легендарнага англійскага фатографа Марціна Пара. З-за недахопу часу ён выступіў толькі з адной лекцыяй. Яшчэ адным важным момантам месяца стаў прыезд польскага фатографа-дакументаліста сусветнага ўзроўню Мацэка Набрдаліка: ён прэзентаваў кнігу «Незваротнае» пра тых, хто выжыў у канцлагерах Другой сусветнай вайны.



*Аляксей Шлык і Алег Шобін. Без назвы.*




*Арно Фішэр «Нью-Ёрк», 1984 г.*

Цэнтр сучасных мастацтваў паказаў выстаўку вядомага нямецкага фатографа і выкладчыка Арно Фішэра. 140 чорна-белых здымкаў пазнаёмілі гледача з рознымі перыядамі жыцця творцы, які нарадзіўся ў 1927 годзе ў Берліне. Кропкай адліку стала яго ранняя серыя фатаграфій «Сітуацыя Берлін», увага ў якой акцэнтуецца на пасляваенным горадзе. Былі прадстаўлены яго работы для ўсходненямецкага часопіса мод *Sibylle*, партрэты вядомых асоб: Марлен Дзітрых, Маі Плісецкай... Можна было ўбачыць і фота са шматлікіх падарожжаў па Германіі, Індыі, Афрыцы, ЗША. Апошняя частка экспазіцыі — серыя палароідных здымкаў саду А. Фішэра.

Польскі інстытут у Мінску прадставіў эксперыментальны праект студэнтаў і выпускнікоў варшаўскай Мастацкай акадэміі «Пражыванне/ACOMODACJA», а таксама праект «Albom.pl», які распавядае пра польска-беларускае памежжа. Пецярбургскі інфармацыйны цэнтр «ФотаДэпартамент» прывёз выстаўку «Не[свое]часовае», прысвечаную пошукам сапраўднай рускай душы і фатаграфіі. У галерэі сучаснага мастацтва «Ў» адбылася прэзентацыя сучаснай латышскай фатаграфіі. У межах фестывалю «Месяца фатаграфіі ў Мінску» таксама прайшла выстаўка пераможцаў міжнароднага конкурсу «Photo Evidence 2013», а літоўска-амерыканскі фатограф Эндру Мікшыс прадставіў праект «Tulips», прысвечаны афіцыйным святам Беларусі.

## БЕЛАРУСКАЯ ПЛЯЦОЎКА

Беларускія фатографы былі прадстаўлены чатырма блокамі.

*Маладая беларуская фатаграфія.* На пляцоўках Музея сучаснага выяўленчага мастацтва адбылася выстаўка Віктара Гіліцкага «Апошні Візіт», якая распавяла гісторыю пра дзядулю фотамастака, які памёр праз некалькі дзён пасля стварэння фотаздымкаў. Прыгожы сентыментальны аповед, дзе жыццё галоўнага героя нібы складаецца з рытуалаў: прыгатаваць ежу, затапіць лазню, апрацаваць зямлю, прачытаць газету і паслухаць радыё. Фатограф не ўмешваецца ў дзеянне і займае пазіцыю назіральніка. Гэта невялікая аповесць прымушае пераасэнсаваць значэнне нічым не адметных будняў, сумеснай з кімсьці паўсядзённасці.

Аляксей Шлык і Алег Шобін прадставілі «Рэканструкцыю №1», дзе работы створаны па складанай тэхніцы друку на дрэве. У фотапраекце «Кунсткамера» Аляксандр Веледзімовіч разам з гледачом шукаў адказы на пытанні: калі жывапіс больш рэалістычны за фатаграфію? Ці заўсёды фатаграфія гаворыць пра мінулае?

У Галерэі «Акадэмія» адбылася выстаўка «Сем». Сем аўтараў беларускага грамадскага аб'яднання «Фотамастацтва» прадставілі вынікі персанальных візуальных пошукаў. Марына Бацюкова, Сяргей Жданові, Вадзім Качан, Элан Лыскоў, Сяргей Міхаленка, Ігар Саўчанка, Андрэй Шчукін — кожны з іх расказаў сваю гісторыю, атмасфера якой ўмоўна звязана з магіяй лічбы «сем».

*Класікі беларускага фотамастацтва.* Найперш выстаўка фатографаў Сяргея і Дзмітрыя Брушко, бацькі і сына. Сяргей памёр у 2000 годзе, пакінуўшы пасля сябе неацэнную калекцыю дакументальнай фатаграфіі. У 2014-м экспазіцыя з чорна-белых фатаграфій бацькі і каляровых фота сына была зладжана ў сталічным трамваі № 1.

Немагчыма было абысціся і без творчасці легендарнай арт-групы «Беларускі клімат», выхадцаў Мінскай школы фатаграфіі.

У фотаклубе «Мінск» прэзентаваліся юныя фатографы, якія толькі пачынаюць заяўляць пра сябе.

Адукацыйную частку склала лекцыя Надзеі Саўчанка пра беларускую фатаграфію з 1917 па 1941 гг. і ў прыватнасці пра віцебскага фатографа Жыгімонта Юркоўскага, вынаходніка засаўкі для фотакамеры, ліцэнзію на якую пазней выкупіла нямецкая кампанія *Leica*.

## «ПРОФОТО»

Падчас праекта ўвазе гледачоў былі прадстаўлены слайд-шоу работ фіналістаў трох міжнародных конкурсаў: *Grand Prix 2014* фестывалю ў Лодзі (Польшча), *Prix Voies Off 2014* фестывалю *Voies Off* у Орлі (Францыя) і *World Press Photo Multimedia 2014*. Прайшлі лекцыі вядомых фатографаў — Матыяса Флюгена, Надзеі Шарамецецвай і іншых. Галоўная частка «Месяца фатаграфіі ў Мінску» — прэмія «ПРОФОТО»: афіцыйная цырымонія ўганаравання адбудзецца сёння на пляцоўцы для мерапрыемстваў «ЦЭХ». Прэмія прысуджаецца беларускім фатографам у двух намінацыях: дакументальная фатаграфія і арт-фатаграфія. Сярод прэтэндэнтаў — фатографы, якія працавалі над вялікімі праектамі.

Закрыццё «Месяца фатаграфіі ў Мінску» стане адкрыццём выстаўкі пераможцаў. Па выніках фэсту будзе выдадзены друкаваны каталог з інфармацыяй пра мінулыя мерапрыемствы, а таксама паказаныя на фестывалі фатаграфіі.

**Таццяна ШЧЭРБА**

ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2296.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 30.10.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4113.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686
14043